

Моладзь разам → 4


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Памяць пра Казлоўскага → 8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 29 (3140) Год LXI | Беласток, 17 ліпеня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Вярнуўся маршрут 37!

Рэактывацыя цягніка на маршруце № 37 была марай не толькі Андрэя Каспяровіча, аднаго з найбольш актыўных жыхароў вёскі Саколе Міхалоўскай гміны. Чыгуначная лінія, якая спалучае станцыю Беласток са станцыяй Зубкі-Беластоцкія была адкрыта ў 1886 годзе. 2 красавіка 2000 г. па гэтым маршруце праехаў быў апошні цягнік...




— А вось я ўпёрся! Цярпліва верыў, што наступіць усё ж такі дзень. І наш цягнік зноў рушыць! Удалося! — цешыўся спадар Андрэй, актыўны член Таварыства сяброў Саколя, аўтар дзвюх кніг пра роднае старонне. — Нядаўна мы самі ўпарадкавалі талакой наваколе станцыі ў Саколі на чыгуначным маршруце № 37, з вялікім энтузіязмам і надзеяй, што вернецца нам доступ да свету. Унутры пашкоджанага будынка віднела адно дошчачка з надпісам «Пачакальныя». На лесвіцы было поўна бітага шкла. На даху — парослы мохам шыфер. Але ж пайшоў наш поезд!

Цягнік пайшоў у Валілы 2 ліпеня; рушыў з зачыненага вакзала Беласток-Фабрычны. А потым спыняўся ў Кур'янах, Заязерцах, Жэдні і Саколі.Так будзе кожны ўік-энд, даўжэй чым да 25 верасня як планавалася.

Андрэй Каспяровіч трыццаць пяць гадоў даязджаў быў у школу, а затым на працу ў Беластоку. На гэтым цягніку штодня ездзілі натоўпы пасажыраў, ледзь зачыніш дзверы вагона. Так было да 2 красавіка 2000 года, калі наступіў крах. Дзяржаўная чыгунка адмяніла 37-кіламетровы маршрут. Стаў ёй нявыгадным.

З тым апошнім цягніком развіталіся ўрачыста. На пуці выйшлі людзі з „клепсідрай" — абвесткай пра смерць маршруту, з плачам. І жыццё ў Саколі і наваколлі змянілася. Людзі адчувалі сябе так, быццам бы іх адрэзалі ад свету. У школу і на працу ў горадзе не было як дабрацца. Нічога сюдою не ездзіла, нават аўтобус. Ад вёскі да прыпынку ПКС к Жэдні — тры кіламетры. Менавіта таму гэтага цягніка ўсе чакалі як збаўлення. Але не верылася людзям, што ўдасца. Адрэй Каспяровіч рызыкнуў, стаў змагацца: «Я быў аптымістам, ніколі не сумняваўся. Верыў, што ў адзін цудоўны дзень гэта адбудзецца, і на канец дамогся!..».

Калі пасля розных перапалак удалося ўрэшце знайсці сродкі для паўторнай актывацыі маршруту — каля 65 тысяч злотых (на што скінуліся ваяводскі самаўрад і гміны Міхалова і Гарадок, якія дакладліся па 12,5 тысячы злотых для ўтрымання шляху), да апошняй хвіліны абмяркоўвалі расклад. Маршрут не быў выкарыстаны 16 гадоў, шмат што папсавалася, зарасло. Трэба было асвяжыць і платформы, на якіх даўно не былі бачныя пасажыры. Некалькі гадоў на гэтым прыгожым маршруце праз Кнышынскую пушчу можна было выбрацца толькі ў адзін дзень у студзені, калі запускалі спецыяльны цягнік Вялікага аркестра святочнай дапамогі.



■ Злева Андрэй Каспяровіч, справа войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша



На маршруце з Беластока ў Валілы ачысцілі плошчу ўздоўж чыгуначнай лініі. Адноўлена і папоўнена маркіроўка праходаў і лакальных абмежаванняў. Ачышчаны платформы. Пазначаны прыпынкі, а на платформах вісяць новыя расклады руху. Чыгуначнікі праехаліся на дрызіне, каб праверыць усе параметры бяспекі на шляху. Уся праца па вяртанні маршруту ішла па графіку і завершана на пуску цягніка. На мінулым тыдні Рэгіянальныя перавозы, адказныя за рэйкабус, які будзе ездзіць па маршруце ў выходныя, саставілі расклады. Вырашылі, што курсаванне турыстычнага цягніка будзе падоўжана да 9 кастрычніка. І так, па суботах і нядзелях цягнік будзе адпраўляцца са сталіцы Падляшша ў 9:00, на мэце будзе ў 10:14. Вяртацца цягнік у Беласток з Валіл будзе ў 16:02, і на месцы будзе каля 17:17. Запуск цягніка таксама дазволіць даехаць на **„Басовішча"** **—** Фестываль маладой Беларусі. Яшчэ адзін дадатковы вячэрні курс плануецца таксама 30 ліпеня, калі ў Барыку ў Гарадку будзе **„Сяброўская бяседа"**. У дзень мерапрыемства з Беластока цягнікі будуць адпраўляцца ў 17:40 і ў Валілах будуць у 18:55. Удзельнікі мерапрыемства будуць мець магчымасць вярнуцца ў горад, падаўшыся да цягніка ў 23:07, які прывязе іх на канчатковую станцыю 22 хвіліны пасля поўначы. Выключэннем у раскладзе будуць таксама выходныя 3 і 4 верасня, калі запланаванае мерапрыемства з нагоды юбілею **130-годдзя Палескай чыгунк**і і **Фестывалю грыба**. Тады цягнік з Беластока ад'едзе ў 10:25, а даедзе ў Валілы ў 11:40, хаця самым важным прыпынкам будзе на гэты раз Саколе. Тады дадатковы даезд будзе магчымы паміж Саколем і Валіламі. Цягнік у Валілы прыедзе ў 11:36, забярэ пасажыраў з Валіл і ў 12:00 рушыць у Саколе; у 15:30 з Саколя завязе пасажыраў у Валілы, а з Валіл у Беласток рушыць у 16:16.

На дадзены маршрут будзе абавязваць адмысловая прапанова «Маршрут у добрай цане», у адпаведнасці з якой тарыф за квіткі будзе меншы чым звычайная плата за праезд на рэгіянальным транспарце. Таннейшыя квіткі даступныя ўжо з 2 ліпеня 2016 года. Прыкладны кошт квіткоў: Беласток — Беласток-Фабрычны: 2 зл., Беласток — Кур'яны: 2,56, Беласток — Заязерцы: 3,25 зл., Беласток — Жэдня: 3,80, Беласток — Саколе-Беластоцкае: 4,10 зл., Беласток — Валілы: 5,30 злотых.

Доўгачаканы цягнік быў урачыста прывітаны ў Саколі і ў Валілах. Выступілі ўсе мясцовыя калектывы, паказалі прамацыйныя стэнды пра Гарадоцкую гміну, можна было пачаставацца гарачым бігасам і іншымі прысмакамі, з'ездзіць над заліў у Падрэчанах і пабачыць іншыя атракцыёны Гарадоцкай гміны. Рэйкабус рушыў назад у 16:02.

— Вяртанне цягніка прынесла людзям вялікую зручнасць, — адзначае Андрэй Каспяровіч. — Гэта павышае мабільнасць жыхароў і турыстаў, якія наведваюць Беласточчыну, дазволіць хутка дабрацца ў Кнышынскую пушчу, пазахапляцца ёю і наваколлем. А для нас гэта як вяртанне маладосці!

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Купляйце казу

Беларусь імгненна абляцела новая вестка, на гэты раз радасная. Аказваецца, Савет Міністраў прыняў пастанову, якая скасоўвае ненавіснае ўсімі жыхарамі сінявокай рашэнне ўрада аб нібыта рэгуляванні вывазу паліва за мяжу. У рэальнасці ж тое рашэнне папросту ўскладняла выезд за мяжу грамадзян Беларусі. Калі чалавек надумваўся на сваім аўтамабілі выехаць з радзімы часцей чым раз у восем дзён, яму трэба было выцерпець шэраг нязручнасцей на мяжы. Тлумачылася гэта тым, што несумленныя кантрабандысты забагата вывозяць за мяжу паліва і гэты працэс трэба неяк чынам „усумленніць".

А вось чаму яго трэба ўнармалізаваць, ніхто толкам растлумачыць не мог. Відаць, самі не ведалі. Паліва ў нас хоць было і таннейшае чым у суседзяў, але ніколі не было датацыйным таварам. Гэта значыць, што з яго продажу краіна ўвесь час мела пэўны прыбытак. Ну і не трэба мець вышэйшай эканамічнай адукацыі, каб уявіць, што калі нейкі там продаж хоць чаго-небудзь дае хоць які-небудзь прыбытак, то трэба старацца гэтага тавару прадаць як мага больш, пакуль бяруць. І нават салярка не выключэнне ў гэтай эканамічнай аксіёме.

Што ж змянілася цяпер? Паліва ў нас па-ранейшаму таннейшае. Чаму ж зараз яго вывозіць стала можна? Версія, што ў нас салярукі стала так шмат, што няма куды дзяваць, выглядае недарэчнай. Уборачная, так званая бітва за ўраджай, на носе. Сваёй нафты так і не знайшлі, бо хіба што не шукалі, а рускія не спяшаюцца з вялікім павелічэннем паставак і зніжэннем коштаў на сваю.

Ну і зусім абсурдный выглядае версія, што наш родненькі беларускі Савет Міністраў вырашыў даць зарабіць сваім грамадзянам на спекуляцыі салляркай, каб яны мелі чым заплаціць падатак на дармаедства. Яны хутчэй увядуць падатак на падатак.

Прыкладам, з Польшчы можна вывозіць усё што заўгодна. Салярку, тэлевізары, джынсы, пральныя машыны, мабільныя тэлефоны, гарэлку, цыгарэты і нават бульбу... І колькі б гэтага не вывозілі, яно ў той Польшчы ўсё адно не канчаецца. Палякі нават ВАТ прыдумалі, грошы за гэта плацяць, каб стымуляваць вываз з Польшчы ўсяго акрамя самой Польшчы.

У нас заўсёды было наадварот. Растлумачыць гэта нечым яшчэ, як толькі зайздрасным жаданнем улады проста не даць чалавеку зарабіць, я не магу. Як вынік — страта цэлага войска прадпрымальных людзей, якія б прасоўвалі нашы беларускія тавары на замежныя рынкі. Вазілі ж некалі адсюль у Польшчу, прыкладам, тэлевізары „Гарызонт". І вялікім попытам яны карысталіся. Ну дык талоны на іх увялі і растлумачылі народу, што зрабілі гэта дзеля таго, каб абмежаваць вываз. Ну, усё як з палівам, адзін у адзін. Да чаго гэта прывяло, ведаюць усе. „Гарызонт" больш нікому непатрэбны. І так можна расказваць пра ўсё. І пра цвікі, і пра бытавую хімію, і пра гарэлку, і пра піва, а нават пра хлеб і бульбу... Я ўжо не гавару пра цыгарэты. Пра гэтыя знакамітыя кантрабандныя цыгарэты, якія таксама забараняклі вывозіць. Нібыта самі накурыцца ніяк не можам.

Зараз увесь беларускі тавар стараюцца назваць „імпартазамяшчэннем". І пад лозунг „купляйце беларускае" ледзь не сілай усё гэта стараюцца ўвапхнуць сваім грамадзянам, якім некалі не далі прадаць усё гэта за мяжу. А з палівам дык увогуле атрымалася нязвыкла. Яго, зараз, аказваецца можна і за мяжу вывозіць...

І вось ужо памежны народ пачуў вялікую палёгку. Ужо паціраюць рукі і надзвычай станоўча ацэньваюць дзеянні Саўміна. Кажуць з захапленнем, што ўрад нарэшце пра народ пачаў думаць...

Эх, усё як у старым добрым анекдоце, калі Ізя прыйшоў да рабіна і скардзіцца, што вельмі кепска яму жыць, сям'я вялікая, хата малая, няма дзе нават дзеля сну прытуліцца.

— Купі казу, — раіць яму рабін.

Праз нейкі час Ізя зноў прыходзіць і плача:

— Яшчэ горш стала, — кажа. — І так месца не было, а тут яшчэ каза палову хаты займае.

— Прадай казу, — заяўляе рабін.

У наступную сустрэчу Ізя падляцеў да рабіна і давай дзякаваць:

— Які ты разумны, — хваліць таго. — І сапраўды, як прадаў казу, адразу лягчэй стала. Месца ў хаце стала больш. Цяпер і жыць можна.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Як і ў Беларусі

Нядаўна я меў магчымасць кожны дзень быць з палякамі, якія жывуць у далёкіх ад Падляшша рэгіёнах краіны. З Мазовіі, Ніжняй Сілезіі, са Шчэцінскага ваяводства... У большасці гэтыя людзі былі сур'ёзна хворыя, асуджаныя на доўгае знаходжанне ў рэабілітацыйным шпіталі, так што таксама знуджаныя і хацелася ім пагаварыць. Пераважна былі гэта людзі немаладыя (хоць і не хапала сярод іх маладых, 25-30-гадовых), з прафесійнай адукацыяй: будаўнікі, кіроўцы, механікі. Але сярод пацыентаў былі таксама недавучаны магістр-аптэкар, пенсіянер-архітэктар, прафесар універсітэта, дзяржаўны служачы сярэдняга звяна, журналіст і мастак. І ў жывой памяці медыцынскага персаналу захавалася постаць вядомага сатырыка Яна Петшака, які разам з іншымі, апрануты ў спартовы касцюм і красоўкі, быў прымушаны адзін заезд ці два перада мной выконваць розныя недарэчныя падскокі. З цікаўнасцю я спытаўся ва ўсіх іх пра Беларусь — што яны ведаюць пра яе? Як яны ўспрымаюць беларусаў? Ці ў іх ёсць веды пра тое, што Беласточчына, як неад'емная частка Польшчы, таксама з'яўляецца домам для значнай колькасці людзей, якія ідэнтыфікуюць сябе з беларускай культурай і нацыянальнасцю? Вось як я ставіў пытанне: **Białostocczyzna — Ojczyzna**. Да майго здзіўлення, нікога гэта не хвалявала. Я жыхар Варшавы! — хтосьці заявіў у самым пачатку. А я Сілезскага, са Шчэціна і г.д. Палякамі, аб'яднанымі ў сваёй заядлай польскасці, станавіліся яны толькі тады, калі з'яўлялася габрэйскае пытанне. А паколькі паяўляецца яно як Піліп з канапель, дзе б сустрэліся адзін з адным палякі, дык і з іх этнічнай ідэнтычнасцю ніколі няма праблемы. З журналісцкага абавязку я проста дадам, што ў дадатак да традыцыйнага антысемітызму іншай «абшчыннай» воссю польскасці стала «ўкраінскае пытанне», якое ўваскрашае інтэнсіўна правая прэса горкім, хоць негістарычна інтэрпрэтаваным і праз гэта несправядлівым напамінам валынскай разні. Што тычыцца пытання аб беларускай меншасці, то пасля грамаднага заключэння, што гэта, мабыць, праваслаўныя, большасць з іх з задавальненнем прызнала, што польскі народ з'яўляецца вельмі талерантнай нацыяй. І на гэтым справу зачынілі.

А Беларусь? Якой яна явіцца сярэднім палякам? Нічога, што цяпер цяжка хворым... Экзатычная! Мабыць, нават больш экзатычная чым Сейшэльскія або Трабрыянскія астравы. Кожны з маіх суразмоўцаў нешта чуў пра яе, але ніхто там ніколі яшчэ не быў. «Я думаю, што гэта краіна, размешчаная дзесьці блізка да Расіі». — «А не Польшчы?» — дапытваўся я. «А дзе там! Польшчы?!» — здзіўляўся кожны трэці. А кожны другі сцвярджаў, спасылаючыся на паказанні каго-небудзь са сваіх сяброў або членаў сям'і, якія ў Беларусі былі наўмысна наведваючы яе або проста праездам, што гэта «краіна з'яўляецца чыстай і акуратнай, дзе на вуліцы ці ў лесе не знойдзеш валяючыхся ані поліэтыленавага пакета ці пустой бутэлькі, ці паперчыны», і людзі вельмі гасцінныя і ветлівыя. Ды пачакай, пачакай, успомніў хтосьці, «там жа размаўляюць на рускай мове, дык і з гэтай чысцінёй і парадкам у іх не цалкам праўда. Таму што ў Расіі — вось там дык гадасць і беспарадак!». Ну так, я супрацьўляўся сарамліва, толькі ў Польшчы гавораць па-польску, а бруду і беспарадку столькі ж што і ў Расіі. «У Польшчы гэта штосьці іншае!» — заверашчалі амаль усе. Гэта праз іхнюю дэмакратыю. Іхнюю? Ну, праз габрэяў. У Беларусі няма габрэяў, дык у іх дома спакой. І яшчэ гэты іхні Лукашэнка. Хоць дыктатар, але «трымае парадак». І ў Польшчы таго нам трэба. «У Лукашэнкі можна навучыцца шмат добрага». Значыць, чаго, спытаўся я больш агрэсіўна — аўтарытарызму, падаўлення сацыяльнай крытыкі, недзеяздольнасці судовай сістэмы, доўгатэрміновых турмаў для палітычных працаўнікаў, цэнзуры СМІ, працоўных лагераў для непакорлівых, прымянення смяротнай кары? «Дык Беларусь падтрымлівае смяротнае пакаранне? О, так, так, і ў нас такое трэба. Пад сценку паставіць трэба іх усіх — гэтых бандытаў, зладзеяў, здраднікаў». Каго маеце на ўвазе? «Ну, палітыкаў. Дэпутатаў, сенатараў, міністраў». Усіх? «А ўсіх, па чарзе! Таму што Польшча хворая. Хай бы ўсё гэта ўжо прыйшло ў парадак. Як і ў Беларусі».

Ну, што на гэта скажаце: размаўляючы са сваімі суайчыннікамі я цудоўна ачуняў! У адзін момант. У той момант.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За нашу і вашу карову!

Мой сябра ў хвілінах лірычнага забыцця любіць паўтараць, што сваім характарам і эмоцыямі зусім не падыходзіць да жыцця ў сённяшніх вар'яцкіх часах. Не пасуе ён да сённяшняй грамадска-палітычнай мітусні — як сам кажа — дзе няма аніякіх каштоўнасцей і ніхто не стрымлівае дадзенага слова. „Таму, відаць, найлепей адчуваў бы я сябе ў XIX стагоддзі ў час розных еўрапейскіх нацыянальна-вызвольных паўстанняў, там, дзе людзі змагаліся яшчэ проста за нашу і вашу свабоду", — падкрэслівае заўсёды ў задуменні. Яго выказванні я дыпламатычна змоўчваю, аж надта добра разумеючы чалавека, якому прыходзіцца звыш дваццаці гадоў прымаць удзел у безвыніковым працэсе, які хацелася б прынамсі назваць беларускай палітыкай. Бо, на жаль, аж надта выразна, што з'яўляецца ён адначасна пешкай і заложнікам розыгрышаў магутных суседзяў. Увогуле, прынцыпы палітыкі з'яўляюцца вельмі празрыстымі і на працягу стагоддзяў рэзка не памяняліся, У палітычным ці ваенным плане ўсё павінна звесціся да аднаго: біць і забіць свайго саперніка. І ў рэальнасці словы за нашу і вашу свабоду з'яўляюцца чарговай прапагандысцкай фальшыўкай у змаганні за геапалітычныя інтарэсы паасобных гульцоў. Гэтымі словамі, як нейкай мантрай на выратаванне, карыстаюцца тыя, якія апынуліся ў бязвыхадным ці пройгрышным палітычна-гістарычным становішчы, што нагадвае акт адчаю ў спадзяванні на памілаванне ката. Ну і як заўсёды ў такіх выпадках сярод народаў дастаткова бывае інфантыльных рэвалюцыянераў ці карысных ідыётаў, гатовых балбатаць ці паверыць у нерэальныя абяцанкі-цацанкі. Зразумела, што не адмаўляю я права тым шляхетным людзям, якія ў душэўным узрыме гатовы несці бескарысную дапамогу іншым народам, ахвяруючы прытым нават і жыццём. Пашана і павага належацца такім людзям. Аднак бязлітасная рэальнасць сённяшняга дня паказвае, што за нашай і вашай свабодай стаяць найчасцей штукі расейскіх, амерыканскіх ці натаўскіх сіл хуткага рэагавання, невядомых зялёных чалавечкаў ці звычайных наёмнікаў, якія выконваюць самыя брудныя загады. Той палітычна-мілітарны дэтэрмінізм у мірным жыцці называецца гістарычнай палітыкай кожнай дзяржавы. І як мы бачым і ведаем, няма ў ёй шмат месца на суседскае дружалюбнасць.

Прыкладам, які набірае небяспечнай раскруткі, з'яўляюцца зараз польска-ўкраінскія гістарычныя дачыненні, прымеркаваныя да гэтак званай валынскай разні, распачатай 11 ліпеня 1943 года, у выніку якой украінскімі нацыяналістамі было знішчаных пад сто тысяч польскага насельніцтва. Польскі бок не быў у даўгу і таксама тысячы мірных украінцаў знішчаліся польскімі атрадамі. Зараз палякі патрабуюць ад украінцаў (якія ў сувязі з вайной з Расеяй апынуліся пад сценкай), прызнання гэтага факта генацыдам. Паміж інтэлектуаламі, гісторыкамі абедзвюх дзяржаў ходзяць адкрытыя лісты, вострыя палемікі і пустыя жэсты. Мяне асабіста ўразілі некаторыя фрагменты адкрытага ліста польскіх парламентарыяў з Права і справядлівасці, накіраванага сваім украінскім калегам, у якім, між іншым, чытаем: „Różnica między nami dotyczy jednak nie przeszłości, lecz współczesnej polityki pamięci historycznej. Problemem jest dzisiejszy ukraiński stosunek do sprawców ludobójstwa dokonanego na Polakach w latach II wojny światowej. **W Polsce na poziomie państwowym i samorządowym nie upamiętniamy ludzi, którzy mają na rękach krew niewinnej ludności cywilnej**. Boli wybór pamięci historycznej, w której otwarta deklaracja sympatii do Polski idzie w parze z gloryfikacją tych, którzy mają na rękach krew naszych rodaków — bezbronnych kobiet i dzieci. Nie możemy zaakceptować nazywania zaplanowanej i zrealizowanej w okrutny sposób akcji przeciw ludności cywilnej mianem polsko-ukraińskiej wojny. (...) Nie możemy akceptować ideologii i działań, które dopuszczają, w imię nawet najwyższych celów — a do takich bez wątpienia należy walka o niepodległość państwa — mordowanie niewinnej ludności cywilnej, w tym kobiet i dzieci...".

Праўда на паперы, а на практыцы — не зусім бясспрэчная, хаця б глянуўшы і на наш беларускі панадворак. Агульнапольская, дзяржаўная палітыка ўшаноўвання выклятых жаўнераў прывяла да некрытычнага захаплення тымі, якія маюць менавіта на руках кроў нявінных беларусаў. Ці Рамуальд Райс «Буры» і Зыгмунт Шэндзеляж «Лупашка» у святле вышэйсказанага могуць быць аўтарытэтамі для маладых палякаў? Каментаваць не стану.

**Яўген ВАПА**

# Балада

## пра браканьера Мірончыка

Хоць Мірончык тры месяцы адсядзеў у беластоцкай турме, яго па-ранейшаму любілі і не лічылі злачынцам. Той-сёй намякаў, быццам Мірончык сам данёс на сябе ў міліцыю. Апошні спосаб здаваўся быць верагодным і нейкім чынам інтэлігентным. Вось, Мірончыка, чалавека лесу, пасадзілі за браканьерства. „Ці гэта вялікае злачынства? — здзіўляліся ў Н. — Ці ён каго забіў, каго зняважыў? Ці ён абакраў сваю хросную маці?". Не, не было такога. Той хто ўмеў славіць зайца, казулю ці кабана, лічыўся тут сапраўдным мужыком. З такой жа станоўчай ацэнкай сяляне глядзелі на хатнюю вытворчасць самагонкі, пакражу дзяржаўнага лесу ці начное выпасванне калгасных лугоў жывёлай. І хоць час ад часу за згаданыя ўчынкі прыходзілася заплаціць штраф або пацярпець у турме, людзі не мянялі адносін да пакараных, а цэлы паскудны закалот з судом і параграфамі лічылі банальным недахопам шчасця...

Сам Мірончык лічыў сябе звычайным чалавекам. Яму ніколі не прыйшло ў галаву, каб пайсці ў царкву і паспавядацца за прыкончаных звяркоў. А царкоўныя законы і духавенства ён шанаваў як ніхто. Кожны раз, калі набліжаліся імяніны бацюшкі, ён першы ляцеў павіншаваць духоўную асобу з прыхаваным за пазухай зайцам.

У Н. падкажуць, што Мірончык дастаўляў дзічыну ўсёй лакальнай вярхушцы: кіраўніку школы, лекару, калгаснай бухгалтарцы, аграному. Словам, у яго была жалезная крыша. Нават заўзяты вораг не асмеліцца данесці на такога браканьера. І гэта быў той апошні аргумент, які падказваў, што сам Мірончык данёс на сябе ў міліцыю.

* * *

А як было на самой справе — ніхто не ведае. Людзей нават перастала цікавіць ісціна справы, яны запамяталі другое. Менавіта запамяталі судовы працэс у Беластоку. Як не цікава, ніхто з апавядальнікаў і расказчыкаў не пабываў у той час у горадзе і зблізку не назіраў незвычайнай расправы. Магчыма, гэтая акалічнасць паспрыяла, каб прыхарошыць падзею і на свой спосаб яшчэ больш праславіць Мірончыка.

Браканьер з'явіўся на расправу ў новым касцюме, быццам да шлюбу. Ён прысеў у лаўцы і маўчаў. Ён не разумеў, чаму ў яго справе спрачаюцца пракурор і адвакат. У ролі доказаў паслужылі фатаздымкі з месца злачынства. На іх віднела мёртвая казуля, заблытаная ў прымітыўную жалезную пятлю з падрэзанай глоткай. Мірончык з ходу прызнаўся да ўсяго: глотку казулі падрэзаў, *каб бедная звярына не пamірала ў пакутах*.

Пракурор не пацікавіўся, чаму абвінавачаны не прыхаваў звярыны, не сасмажыў з яе катлетаў і не зрабіў каўбас. Беручы пад увагу прымітыўны і бессэнсоўны спосаб забойства, ён патрабаваў тры гады турэмнага пакарання.

У народзе кажуць, што дурны мае шчасце. Вось абаронцам нашага браканьера назначылі самага сумленнага адваката, пра якога ў Н., гаварылі „свой хлопец". У глыбі душы ён разумеў матывы і правіннасць свайго кліента. Мірончык быў адзінокі, жыў у лясным хутары Брушніца. На месцы не было крамы, каб купіць якую хабаніну, селядцы ці булкі з макам. А голад не цётка. Не запалюеш, сам з голаду здохнеш. Ды як тут не паляваць, калі дзічына сама падыходзіла пад хату. У карысць браканьера прамовіла яшчэ сямейная трагедыя. У адзінаццаць гадоў ён страціў маці ды гадаваўся з бацькам і дзедам. „A czy samotni, leśni mężczyźni, analfabeci, co to nie potrafili odczytać godziny z zegara, mogli przekazać dziecku wiedzę o poszanowaniu praw przyrody i zwierząt?" — пытаў прысутных адвакат — псіхолаг і гуманіст. Яго свята хвалявала наіўнасць Мірончынка, які замест паказацца прыдуркам, сляпіцай пхаўся ў параграфы. Ці гэты прасцячок не разумее, што значыць тры гады турэмнага зняволення? Што там бываюць гвалты і ўсё такое. Найгорш, што браканьер не ўмеў гаварыць па-польску. Ён, як апошні з падляшскіх магікан, на ўсе пытанні адказваў адно: *я сваё зрабіў, а вы рабіце, што хочаце*. Адвакат пакарыстаўся гэтай прапановай і як леў бараніў прасцячка-аднапляменніка. Ён распавёў пра недахоп крамаў у пушчанскай глыбінцы, цемрашальства дасацыялістычнай вёскі (так менавіта ён пазначыў у часе хутар Брушніца) і пра недахоп сацыяльнай дапамогі старым кавалерам. У рэшце рэшт Мірончыка, каб не пакрыўдзіць маці-справядлівасці, засудзілі на тры месяцы лёгкай турмы. А ён, Мірончык, калі пачуў прыгавор суддзі, зарагатаў і сказаў што ляжыць яму на душы.

* * *

Выказаны тады ім словы сталі асновай каларытнай легенды, якую яшчэ сёння можна пачуць за святочным сталом *на Яна*, ці *на Пакрову*. Калі суддзя спытаў у абвінавачанага, ці той хоча сказаць нешта на сваё апраўданне, Мірончык зухавата падняўся з месца. І ляпнуў такое, што проста не паўтарыць... На шчасце, ён гаварыў на сваім эндэмічным дыялекце, якога не разумелі беластоцкія юрысты. Вядома, за выключэннем добрага адваката, які зноў паставіўся ў ролі анёла-ахоўніка суродзіча-ідыёта....

Калі суддзіць справядліва, Мірончык не дзейнічаў з дрэнным намерам і можа больш за гарадскіх суддзяў і пракураў любіў дзікую звярыну. Ён ніколі не паляваў на матак з маладым прыбыткам, зімой падкідаў сена ў кармушку для аленяў. Свой ясень, які рос каля ганка, прыаздобіў будкай-шпакоўняй. А сам факт, што ля яго хутара ў недаступным бездарожжы пасялілася ваўчыца з маладымі, успрыняў з бацькоўскай узрушанасцю і гонарам. Ён з чуллівасцю гаварыў пра ваўчанят, назіраў за іх ростам і балеў, калі адно ваўчаня адстрэліў п'яніца-егер. З той пары Мірончык ваўком глядзеў на гаёвага, ды кінуў частаваць яго самагонкай і дзічынай. Галоўнай праблемай гэтага старога кавалера была самота. Ад нараджэння жыў у сваім лясным хутары ў атачэнні маўклівых дрэў і звярыны, якая прыходзілася сябрам у адзіноце і ядой у галодны час. Ён не ажаніўся ў пару, пасля страціў надзею на жаніцьбу і каханне. У народзе шапталі, быццам Мірончык час ад часу наведваў бардэль у Гайнаўцы, дзе траціў усе грашакі, зарobленыя на прададзенай дзічыне і бэтках. Апошняя чутка мела прамаўляць у карысць ягонай нармальнасці. „Бо як жа без гэтага жыць?" — гадалі і шапталі ў Н.

* * *

З гэтага цэлага шэпту і недамовак яшчэ больш прабівалася на святло самота Мірончыка. Ён сам камбінаваў, каб на зімовы час трапіць у турму. „Там кожны дзень цёплая страва і цяпло, — гаварыў, — усё пададуць на элегантным падносе". Хоць больш за ўсё прамаўляла прага кампаніі. Ён, як ніхто на свеце, ведаў цану размовы з іншым чалавекам. Няхай сабе і бандытам, гвалтаўніком, — гэта і так цікавей за адзіноту. Бо праўда такая, адзінота даводзіла яго ўжо да шаленства, асабліва ў час зімы, калі дарогу ў хутар Брушніца заносіла метровымі гурбамі снегу. Тады Мірончык быў вымушаны гаварыць з чаркай і ветрам, які павоўчаму завываў за акном. За пабыўкай у турме прамаўлялі расказы аднапляменнікаў, якія ўжо сядзелі за нелегальную вытворчасць самагонкі. Іх расказы напаміналі сучасныя аповеды экскурсантаў, якія вярнуліся з экзатычнага і небяспечнага Егіпта...

Вернемся аднак да тых карэнных слоў Мірончыка, якія браканьер выказаў у твар ваяводскіх суддзяў і пракурораў.





Фота Адама Паўлоўскага

Спачатку расшпіліў свой новы летнік, каб такім чынам прадэманстраваць пачуццё свабоды. А пасля з іранічнай усмешкай, сказаў:

„Ці я шкадую свайго ўчынку? Ой, паны, вы — дурныя паны! Каб вы ведалі, колькі коз і дзікоў я пераеў у сваім жыцці, дык у вас на мяне не хапіла б параграфаў! Ці я шкадую свайго чыну? Чаго мне шкадаваць? Гэта вам трэба шкадаваць, што не стане дурня, які будзе даносіць на стол вам тоўстых зайцоў і курапатак. Вось усё, што я хацеў сказаць вашай высокай палаце, а цяпер пасадзіце мяне ў турму...".

Хоць Мірончык на свой шчыра-дзікі спосаб абразіў высокую палату, яна не разумела яго прамовы.

— Ale co on powiedział? — дапытваўся пракурор, які за час цэлага судовага працэсу паспеў палюбіць дзікуна-браканьера.

— З адказам паспяшыў наш адвакат, які на сур'ёзнай ноце заявіў:

— On powiedział, że bardzo żałuje swojego czynu. Powiedział, że zmuszał go głód i życiowa konieczność, ale teraz zrobi wszystko, żeby się poprawić. Że jest mu bardzo przykro. I że bardzo przeprasza za swój haniebny występek panów sędziów i prokuratorów oraz całe społeczeństwo.

Тэкст і фота Евы СЦЕПАНЮК

## Дзе пастараліся, там маюць

Ужо мінула дзевяць месяцаў з таго часу, як праз сем немалых вёсак (пражывае ў іх 965 чалавек) у Нараўчанскай гміне не ездзяць аўтобусы ПКС у Беласток праз Міхалова. Раней ездзілі раніцай і пасля поўдня ды пераcталі.

Ад 1 верасня 2015 года не ездзяць яны цераз Гарадзіска, Плянту, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Лешукі, Міхнаўку, побач Церамкоў і праз Новую Луку. А вось, між іншым, вучні з гэтых вёсак даязджалі ў Агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове ды старэйшыя жыхары па справах у ваяводскі горад. Гэтым самым аўтобусам ПКС ездзілі ў Міхалова і ў Беласток жыхары суседняй, Міхалоўскай гміны — з Сушчы, Плянты, Адногі, Саколя, Жэдні і з іншых вёсак.

Дзякуючы намаганням бургамістра Міхалова зараз аўтобусы ПКС вярнулі на трасы на тэрыторыі Міхалоўскай гміны. Ад 2 мая гэтага года маюць ажно чатыры курсы ПКС аўскіх аўтобусаў у Беласток на працягу дня жыхары Сушчы, вёскі над ракой Нарвай: а гадзіне 7:20, 11:16, 15:47 і 17:31. Столькі ж курсаў ёсць і ў адваротным напрамку. Адным словам жыхарам Сушчы, Плянты, Новай Волі і іншых вёсак павязло.

Вёску Сушчу ад Нараўчанскай гміны дзеліць рака Нарва. Яна на правым беразе ракі, а на левым бліжэйшыя вёскі ад Сушчы гэта Церамкі, Міхнаўка, Лешукі, Старое Ляўкова ды Новае Ляўкова. І, між іншым, жыхары іх не маюць шанцу даехаць ПКСам найкарацейшай трасай у Беласток. Можна смела сказаць, што з-за недахопу камунікацыйнай сувязі з гарадамі пагоршыліся ўмовы іх жыцця. Справай неадкладна павінны заняцца Рада гміны і войт Нараўчанскай гміны.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## «Вэртэп» не выступіць у Чаромсе

На зломе ліпеня і жніўня ў рамках Міжнароднага тэатральнага фестывалю паўднёва-ўсходнюю частку Беласточчыны наведае тэатр пантаміміы «Вэртэп». На Гайнаўшчыне тэатр выступіць у сямі мясцовасцях: Нараўка (пятніца — 29.07.), Нарва (субота — 30.07.), Кляшчэлі (нядзеля — 31.07.), Палічна (чацвер — 4.08), Дубічы-Царкоўныя (пятніца — 5.08.), Орля (субота — 6.08.), Гайнаўка (нядзеля — 7.08.) і Бельск-Падляшскі (нядзеля — 14.08.). Сёлета, як і ў мінулым годзе, «Вэртэп» не выступіць у Чаромсе, паколькі з 25 па 29 ліпеня будуць праходзіць яшчэ імпрэзы ў рамках Міжнароднага фестывалю шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка». І так, 25-27.07. Людміла Вастракоў з Украіны будзе вучыць белага спеву (удзел платны), а 26-29.07. будуць працаваць майстар-класы па рукадзеллі: ганчарскія, вырабу кветак з паперы, саломапляцення і ткацкія. Варта адзначыць, што 28 і 29.07. будзе адкрытае ткацкае атэлье, дзе можна будзе спрабаваць сваіх умеласцей вытканць палавік на кроснах. Удзел у гэтых астатніх бясплатны. Варта затым пакарыстацца нагодай, наведаць Чаромху і прыняць удзел у майстар-класах па рукадзеллі.

**Уладзімір СІДАРУК**



Вучні пуньскай і нарваўскай школ у Гайнаўскім белмузеі

# Супрацоўніцтва беларускай і літоўскай школ

**При канцы школьнага года вучні літоўскіх класаў Гімназіі з польскай і літоўскай мовай навучання ў Пуньску наведалі Школьна-прадшкольны комплекс у Нарве. Госці пазнаёміліся з вучнямі Нараўскай гміны, якія ў школе вучацца беларускай мове і супольна з імі пабывалі ў розных месцах Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Маладым літоўцам цікавымі былі беларуская культура, праваслаўе і цэрквы.**

Моладзь з Пуньска і Нарвы спаткаўся ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Агнешка Ціханюк распавяла ім пра жыццё беларусаў у мінулым на Гайнаўшчыне і ў суседніх рэгіёнах і паказала пастаянныя і часовыя выставы Гайнаўскага белмузея.

— Нам тут падабаецца, бо апрача звычайных экспазіцый, ёсць выстава з выкарыстаннем мультымедыйнай тэхнікі, — сказалі госці з Пуньска.

Вучні з Гімназіі ў Пуньску прыехалі ў нарваўскую школу па запрашэнні яе дырэкцыі.

— Нашым вучням патрэбны станоўчы прыклад адукацыі нацыянальнай меншасці на іх роднай мове. Мы рашыліся запрасіць да супрацоўніцтва Гімназію ў Пуньску, дзе ў літоўскіх класах амаль усе прадметы выкладаюцца на літоўскай мове. Цяпер вучні нашай і літоўскай школ толькі знаёмяцца. Восенню маем намер наведаць школу ў Пуньску і тады нашы вучні будуць мець нагоду пераканацца, што літоўская моладзь размаўляе па-літоўску дома і ў сваёй школе. Супрацоўніцтва паміж школамі можа паказаць нашым вучням, што ў літоўцаў іншы падыход да адукацыі на роднай мове. Пры нагодзе вучні будуць супольна гуляць і адпачываць, — сказаў намеснік дырэктара Школьна-прадшкольнага комплексу ў Нарве Ігар Лукашук, які разам з вучнямі нарваўскай і пуньскай школ і іх настаўнікамі наведаў Беларускі музей у Гайнаўцы.

— Нас вельмі сардэчна прымаюць. Тут мілая атмасфера і мілыя людзі. Ад паездкі ў школу ў Нарве ў нас застануцца мілыя ўспаміны. Нарваўскія вучні адважныя, мы пасябравалі з імі, — сказалі гімназісты з Пуньска.

У трохгадовай Гімназіі з польскай і літоўскай мовай навучання ў Пуньску больш за 200 вучняў займаюцца ў 9 класах (6 класаў з літоўскай і 3 класы з польскай мовай навучання). Покі літоўскія дзеткі паступяць у гімназію, вучацца ў пачатковай школе з польскай і літоўскай мовамі навучання. Многія выпускнікі літоўскай гімназіі прадаўжаюць вучобу ў агульнаадукацыйным ліцэі з літоўскай мовай навучання ў Пуньску.

— У нашай гімназіі ў літоўскіх класах амаль уся адукацыя адбываецца на літоўскай мове. На польскай выкладаецца толькі польская мова і гісторыя Польшчы, а на ўсіх астатніх прадметах мы вучымся па-літоўску. На літоўскай мове мы размаўляем з бацькамі, сямейнікамі і сябрамі. Для нас натуральнае размаўляць паміж сабой па-літоўску. Калі мы ў кампаніі з польскімі сябрамі, зразумела, што гаворым па-польску, каб усе нас разумелі. Выпускнікі нашай гімназіі найчасцей прадаўжаюць адукацыю ў мясцовым ліцэі з літоўскай мовай навучання. Многія выпускнікі ліцэя паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Вільні і іншых гарадах Літвы. У нас складана з працай і пасля атрымання вышэйшай адукацыі ў Літве студэнты з Пуньска часта застаюцца там жыць і працаваць. Наша моладзь, якая не вучыцца ў вышэйшых установах, часта выязджае за працай у большыя гарады Польшчы або за мяжу, — сказала Інгрыда Вазняліс з гімназіі з польскай і літоўскай мовамі навучання ў Пуньску.

— Падабаюцца нам беларускія песні, якія мы чулі на фэсце. Цікава было нам паглядзець цэрквы, пазнаёміцца з праваслаўем. Паездка дала магчымасць даведацца, як жыве іншая нацыянальная меншасць у Польшчы. У будучыні вучні з Нарвы прыедуць да нас і мы будзем расказваць аб жыцці літоўцаў і паказваць нашу культуру, — гаварылі гімназісты з Пуньска.

— Арганізуюць нам паездкі ў цікавыя месцы. Пабывалі мы на мерапрыемстве, на якім гучала беларуская музыка. Пазнаёміліся з жыццём беларусаў у мінулым. Мы — каталікі і нам цікава было даведацца аб праваслаўі. Асабліва цікава было пазнаёміцца з адукацыяй беларускай моладзі на роднай мове. Неспадзяванкай для нас было, што тут беларускія школьнікі вучацца па-беларуску толькі на ўроках беларускай мовы, а навучанне ўсіх іншых прадметаў адбываецца па-польску, бо ў нас па-літоўску выкладаюцца амаль усе прадметы, — распавялі настаўніцы, якія прыехалі з вучнямі. — У нас галоўная праблема не з адукацыяй на роднай мове, а з працай у Пуньску і наваколлі. Частка нашых выпускнікоў застаецца жыць у Літве, бо ў нас вельмі складана знайсці на месцы працу. Апрача публічных устаноў і суполак, маладыя людзі знаходзяць працу ў сферы паслуг, але і там складана з работай. Мы стараемся выхоўваць нацыянальна свядомых літоўцаў, але пагроза для нас у дэмаграфіі. Нашы дзеці працуюць у замежных краінах, напрыклад у Англіі, выязджаюць у гарады за працай і таму ў Пуньскай гміне застаецца жыць штораз менш моладзі.

Вучням пуньскай і нарваўскай школ спадарожнічалі настаўнікі з Нарвы, у тым ліку настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк, якой асабліва цікава было даведацца аб навучанні роднай мове ў літоўскіх школах.

— Сустрэча з літоўскай моладдзю з Пуньска была цікавай і павучальнай. Вучні былі рады супольным выездам і супольнай гульні. Вучні пасябравалі. Падчас паездкі ў Пуньск наша моладзь будзе мець нагоду пазнаёміцца як роднай мове вучацца літоўскія вучні. Нам, настаўнікам, таксама цікава будзе пазнаёміцца з працэсам навучання ў літоўскай гімназіі. Мы цяпер размаўлялі пра адукацыйныя справы з настаўнікамі з Пуньска. Спачатку нашы госці пабывалі на беларускіх сустрэчах у Шчытах, дзе мелі нагоду пазнаёміцца з беларускімі песнямі. Цікавай аказалася паездка ў скіт у Адрынках, дзе вельмі цёпла прыняў нас архімандрыт Гаўрыіл. Расказаў ён гасцям пра праваслаўе і паказаў скіт. Нашы госці пабывалі ў царкве і касцёле ў Нарве, наведалі мы таксама Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы, які вядомы ў Польшчы з-за Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі. Гулялі мы каля вогнішча, былі супольныя майстар-класы, а зараз мы прыехалі ў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, дзе літоўскія гімназісты маюць магчымасць пазнаёміцца з жыццём беларусаў у прошлым. У нашай школе нядаўна адбылося беларускае мерапрыемства з цыкла «Захаваць у памяці», якое мы ладзім з мэтай прэзентавання беларускай культуры і традыцый жыхарам Нарваўскай гміны. Сёлета нашы вучні паказалі на беларускай мове абрад «Дакопіны», гавэнды і сцэнкі, — сказала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк.

— Мы рады прыезду гімназістаў з Пуньска. Мы прыемна праводзім час, гуляем і наведваем цікавыя месцы. Хацелі б мы паехаць у Пуньск і паглядзець, як вучыцца і жыве літоўская моладзь. Цяпер нам многа часу займалі канкрэтныя падзеі. Можа падчас чарговай сустрэчы будзе больш часу на індывідуальныя размовы, — заявілі нарваўскія гімназісткі Оля Асташэўская і Патрыцыя Чэмярыс.

З гімназістамі з Пуньска па Гайнаўскім і Бельскім паветах падарожнічалі вучні Гімназіі і VI класа Пачатковай школы ў Нарве.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Фота Міры ЛУКШЫ




# Зразумець Беласток

## — разважанні пра сыты абед за пустой міскай

**Завяршылася чарговая сустрэча ў рамках цыкла „Зразумець Беласток” — своеасаблівыя майстар-класы публічнай дыскусіі для інтэлектуалаў нашага рэгіёна. Галоўнымі героямі трэцяга выпуску сталі аддадзеная беларускай справе Гражына Харытанюк-Міхей, Артур Канапацкі, Анджэй Садоўскі, Катажына Сергей, Ежы Шаршуновіч, Моніка Шэўчык, Матэвуш Тымура і слаўтая міс года Іаанна Зубрыцкая. Арганізаткі сустрэчы — Данута Завадзкая, Катажына Нізёлак і Катажына Савіцкая-Мяжынская з Лабараторыі рэгіянальных даследаванняў Універсітэта ў Беластоку на месца сустрэчы выбралі Універсітэцкі цэнтр культуры па вуліцы Цыялкоўскага. Эфектны комплекс шкляных будынкаў у індустрыяльным стылі знаходзіцца далёка ад галоўных артэрый горада. Мабыць, гэта адна з прычын абмежаванай колькасці зацікаўленых. Другая прычына — запланаваны на дзве гадзіны пазней футбольны матч Польшча — Партугалія.**

Дыскутавалі за доўгім, „круглым” сталом, твар у твар. З аднаго боку беларусы, Цэнтр Заменгофа, галерэя „Арсенал”, з другога — татары і навуковыя працаўнікі беластоцкай паланістыкі. Паміж імі медыятары з Лабараторыі рэгіянальных даследаванняў. Кожны з іх тутэйшы, кожны з уласным багажом нямоднай, рознагалосай сёння шматкультурнасці. Яе шматбаковы аналіз з хвіліны на хвіліну ўзмацняў пачуццё няўпэўненасці, безнадзейнасці і страху. Паводле тэзісу арганізатараў, шмат хто баіцца іншасці, якую цяпер уяўляюць сабой імігранты, мусульмане, тэрарысты. Ці ёсць дазвол на страх? Ці ў гэтым кантэксце ідэя шматкультурнасці не з’яўляецца сродкам кантролю такога роду эмоцый, кіравання страхам не толькі меншасці перад большасцю, але таксама большасці перад меншасцямі?

Ужо сам тэзіс здраджвае непапраўныя адносіны ў нашым рэгіёне да этнічных меншасцей, дзе ставяць іх у шэрагу імігрантаў, у тым ліку тэрарыстаў ці нават аўстралійскіх абарыгенаў. Больш таго, голас у гэтай справе быў аддадзены жанчыне са шматгадовым досведам жыцця ў Швейцарыі. Распавяла яна пра праявы непрыхільнасці з боку карэнных швейцарцаў да азіяцкіх і афрыканскіх карыстальнікаў публічнага транспарту. Дзякуй Богу, на Беласточчыне ўсе, незалежна ад канфесіі, пахлі і пахнуць аднолькава і аднолькава маюць у галаве. Аказваецца ўсіх іх, без выключэння, спалучае не толькі аднолькавы пах, але і страх. Выкліканы ён грэблівасцю да іншага і, перш за ўсё, да самога сябе. Добры грунт пад неразумную стэрэатыпізацыю а ў яе выніку — дыскрымінацыю. У раптоўным зрыве адкрытасці нехта нечакана прызнаўся да свайго вясковага паходжання, а ў сувязі з гэтым да сяброўства з беларускай літаратурай. Іншы маўчаў пра беларускую мову бацькоў. Хтосьці падумаў, што вось цяпер за гэтую шчырасць прыйдзецца развітацца з працай.

— Абавязкова ўвесці адпаведную адукацыю ў школах, — раіць нехта незарыентаваны ў шматкультурнай рэальнасці.

— Хто рашыцца на свядомае пазбаўленне сябе і сваёй сям’і хлеба, — рэагуе рэальны песіміст.

— Загад ідзе зверху, незалежна ад нас, — заўважае адзін з прадстаўнікоў татарскай супольнасці.

Дыскусія з інстытуцыянальнай пераходзіць на ўзровень хатняга ачага. Той жа татарын хваліцца сваім, квітнеючым, вечназялёным агародчыкам, у якім толькі ад часу да часу паяўляецца пустазелле. Незарыентаваная ў рэчаіснасці аптымістка заяўляе, што такі агародчык выгадаваць сабе можа кожны.

— Каб толькі грошы былі, — падсумоўвае татарын.

— Нельга зводзіць справу тоеснасці да грошай, — супраціўляецца свайму суайчынніку Артур Канапацкі. — Нельга таксама надта адкрывацца на большасць, каб зусім у ёй не растварыцца.

Гэта чарговае вымярэнне аналізу шматкультурнасці.

Што ва ўмовах шматкультурнасці абазначае супольнасць? Ці ўнутрана разнастайны свет магчыма спалучыць? Ці перспектыва шматкультурнай супольнасці (адзінага музея, супольнай адукацыі) не ёсць, усё-такі, перспектывай большасці? Ці з другога боку, аўтаномнасць інстытуцый і сацыяльных прастораў (наша — ваша) не абмяжоўвае, не падтрымлівае падзелу?

Паводле Гражыны Харытанюк-Міхей, музеяў, якія спалучаюць унутранную разнароднасць рэгіёна сапраўды дастаткова. Для прыкладу, бельская ратуша ці музей у Цеханоўцы. Адносна спосабу навучання неабавязкова чакаць стварэння ўзорных, шматкультурных праграм. Няма ніякіх перашкод у прыстасаванні рэгіянальнага зместу да існуючых школьных умоў.

— Асноўная тут, — сказаў Ежы Шаршуновіч, — не адукацыйная праграма, але стаўленне настаўніка.

Кшыштаф Каротціх адмаўляецца ад вымушанай маніпуляцыі і кіравання меншасцямі з боку большасці, але не бачыць таксама будучыні ў існаванні культурнага, нацыянальнага гета.

Згаданы арганізатаркамі сустрэчы мастак Павел Альтхамер сцвердзіў аднойчы, што там, дзе ваююць і сварацца, найлепш пасласць мастакоў. Сучаснае мастацтва і літаратура часта ў розных формах адносяцца да культурнай/шматкультурнай разнароднасці.

Нехта, таксама незарыентаваны, захапляўся надзвычайнай культурнай актыўнасцю беларускай меншасці. Перш за ўсё мастацкай галерэяй Вілы Сакратэс у Крынках — неперасягнутым узорам у сферы шматкультурных, творчых дзеянняў.

Жаль толькі, што гэтыя дзеянні з нейкага часу прыпыніліся. Публічны запыт пра форму беларускай меншасці ў Крынках, у тым ліку пра культурныя падзеі ў Віле Сакратэс, застаўся без адказу.

Скуль увогуле ўзялася гэтая няшчасная шматкультурнасць? Паводле Анджэя Садоўскага, з іміграцыйных грамадстваў з развітымі інтэграцыйнымі працэсамі, такіх як Канада ці ЗША. У нашай рэчаіснасці слова „шматкультурнасць” абстрактнае і тэарэтычна пустое. Праблему шматкультурнасці, паводле яго меркаванняў, магчыма даследаваць толькі ў дэмакратычным грамадстве, у якім большасць пазбаўлена свядомасці сваёй перавагі над меншасцямі, у якім словы „большасць” і „меншасць” не існуюць.

— У дыскурсе на тэму шматкультурнасці гэтая катэгорыя часта спалучаецца з такімі словамі як бутык, буклет, уяўленне, капітал. Ці магчыма гаварыць пра шматкультурнасць, не карыстаючыся мовай меркантыльных трансакцый, — задумваюцца арганізатары.

— Ці нашы меншасці хочуць быць маркетынгавым прадуктам шматкультурнасці? — пытае сабраных Артур Канапацкі.

— Можам гаварыць толькі пра культурную разнароднасць, — тлумачыць Ежы Шаршуновіч.

Тут няма ніякай шматкультурнасці, гэта само сабой не зробіцца. Падставай для яе стварэння з’яўляецца сустрэча чалавека з чалавекам. Пакуль няма шчырых намераў, ахвоты да сапраўднай размовы, няма пра што гаварыць. Усё гэта толькі балбатня бульбаеда пра тое, што добра было б з’есці фазаніну.

**Іаанна ЧАБАН**

# У нас „Ніву” чытаюць

Мне — як солтысу, раднаму і карэспандэнту — залежыць, каб „Ніву” чыталі ў маёй роднай вёсцы ды ва ўсёй Нараўчанскай гміне. Зараз маю больш вольнага часу, бо разлічваюся ў фінансавым аддзеле гміннай управы з другой раты падаткаў ад жыхароў даволі вялікай вёскі. Сярод жыхароў Нараўкі, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Новін і Плянты кладу я 24 экземпляры 20 нумара (ад 15 мая гэтага года) нашага роднага штотыднёвіка. Прывёз іх з пошты і ўсе з крамы ГС у Нараўцы ды 10 з рэдакцыі „Нівы”. Як аказалася, запатрабаванне на гэты нумар было большае і я паеаў у Беласток 19 мая і набыў яшчэ дзесяць экземпляраў.

На кожны чарговы новы нумар беларускай газеты тут чакаюць, між іншым, Валянціна Самойлік, Галіна Бірыцкая, Марыя Янель, Зіна Садоўскаая, Валянціна Ігнацюк, Марыя Крышань, Зіна Сахарчук, Лідзія Трусевіч, Лідзія Казлоўсакая, Ніна Галубоўская, Лідзія Галубоўская, Галіна і Юрка Казлоўскія, Альжбета і Валодзя Красноўскія, Кастусь і Марыя Целушэцкія, Вольга і Віталь Скепкі, Галіна і Аляксандр Скепкі, Ірэна і Мікалай Скепкі, Люба Скепка, Кастусь Ярашук і Зіна Пацэвіч. Я тут другі лістаноша ды не менш чаканы — як мне сказалі — ад сапраўднага. Найбольш асобнікаў „Нівы” трапляе ў Новае Ляўкова.

Варта даць, што зараз на „Ніву” падпісаліся самаўрадавая бібліятэка ў Старым Ляўкове і Яўгенія Ігнацюк са Старога Ляўкова. Пастаянным падпісчыкам у Нараўчанскай гміне быў, між іншым, Уладзімір Клімюк з Плянты (ён ранейшы ніўскі карэспандэнт). Цяпер ён прабывае ў дачкі ў Ягуштове каля Бельска-Падляшскага (з ім у мяне пастаянны кантакт) і там падпісваецца на беларускі штотыднёвік.

**(яц)**

# Чыжоўскія пірагі і не толькі

Пад такім загалоўкам Гмінны цэнтр культуры ў Чыжах выдаў кніжку ў рамках праекта «Кулінарныя традыцыі беларускай меншасці Падляшша» пры фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі. Гэты кулінарны буклет рэкамендую вясковым гаспадыням, каб успомніць як калісьці выглядала падляшская кухня, якія стравы рыхтаваліся штодзень і на свята. А самае асноўнае, што ў кнізе змешчаны рэцэпты і спосаб падрыхтоўкі паасобных страў і вэнджаных вырабаў. А выбар даволі багаты, пачаўшы ад хатняга хлеба, а закончыўшы на тушанай капусце. Апрача таго ў публікацыі можна знайсці рэцэпты на выхапенькі, крутоны, піраг па-чыжоўску, падпламыкі, картафлянік, бульбяную кішку, картачы, каплун, крашанку, праснакі, калдуны, саладуху, хрусцікі ды шмат іншых. З выданнем я пазнаёміўся на сайце ГАК Чыжоўскай гміны. А зараз шыкарна апрацаваны (на польскай і беларускай мовах) буклеты папоўнілі маю дамашнюю бібліятэку. А гэта дзякуючы працаўніку Гміннага асяродка культуры Кацярыне Заброцкай, якая па нашай тэлефоннай размове неадкладна па пошце даслала мне выданне. І за гэта спадарыні Кацярыне шчырае дзякуй!

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




Фота Ганны Кандрацюк



# Вогнішча
## з сюрпрызам

Як заўсёды, Сустрэчы „Зоркі” і ў гэтым годзе не абышліся без сюрпрызаў. На вогнішча завіталі да нас госці з Канады і Гарадка (гурт „Хутар”). Смачныя каўбаскі і булкі сышлі на другі план. Мы ў захапленні слухалі гасцей. Вядомыя нам усім песні пад гукі гітар і бубна гучалі яшчэ прыгажэй. Мы хутка пачалі ім падпяваць. Максім і Крыстыян сталі амаль членамі гурта. Іх галасы несліся далёка ў лес. Наш наймалодшы сябар Іванка пэўна ім пазайздросціў. Ён пачаў іграць на бубне, а пасля на ланцугах ад гушкалкі. Можа пан Карповіч прыме яго ў свой гурт?

Здзівіла нас, што спадар Ян з Канады ўмее іграць на гармоніку і спявае нашы песні. „Купалінка” ў яго выкананні гучала не толькі прыгожа, але неяк незвычайна. Я слухала як зачараваная. Перад гэтай песняй ён прынёс сваёй жонцы прыгожы букет кветак з цудоўных валількоў. Цікава, ці ў Канадзе растуць васількі?

Для тых, якія не любяць спяваць, таксама быў сюрпрыз. Спадар Янка Карповіч прачытаў гумарыстычныя вершы мясцовых аўтараў.

Мне здаецца, што з намі гуляла прырода, спявалі цвыркуны, а ясны месяц быццам бы да нас падмігрваў і ўсміхаўся. Супраць нас былі толькі камары, якія джалілі і праганялі нас ад вогнішча.

**Оля Зінкевіч,** „Парнасік”

Ад „Зоркі”: Прыезд цудоўнага гурта „Хутар” спансараваў пан Сільвестр Яроцкі, бацька нашай сяброўкі Олі. Шчырае дзякуй і сардэчны паклон Гарадку!

## Вершы Віктара Шведа



### Ці на Месяцы ёсць людзі?

Хлопцы на падворку судзяць:
Ці на Месяцы ёсць людзі?
Кожны з нас пераканаваны,
Святло гарыць там пастаянна.

У дзяцей запас вучнёўскі,
Аб усім прымаюць згадкі.
Жыў на Месяцы Твардоўскі,
Там жывуць яго нашчадкі.

### Вострая размова

— Фарбуецеся дзяўчаты,
Пэцкаеце юны твар.
А мы хлопцы зухаваты
Не паносім тых ахвяр.

— Нам, дзяўчатам, не дзівота,
Што чужы вам побыт наш.
Вам, мужчынская брыдота,
Не паможа макіяж.

## Загадкі з роднай хаткі

## УВАГА КОНКУРС! № 29-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 24 ліпеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Ходзіць цётка
па падворку,
у яе адна гаворка:
— Кудах-тах-тах!
Хто-хто ў кустах?
К.....**

**Адказ на загадку № 25-16: ноч.**

**Узнагароды, каляровыя гумкі, выйгралі Бартэк Чэмярыс з Нарвы, Уля Марчук з Нараўкі, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

* * *

Ідзе дождж,
ужо ўсё неба закрылі хмары
і ўжо не засталося надзеі
на тое,
каб убачыць прамені сонейка.

Але не, дождж перастаў ісці
і ўсе былі рады,
а дождж – не.

І ўжо зноў
паказалася сонейка,
але дождж пачаў капаць.

Ён капаў і капаў,
а пакуль капаў,
людзі грэліся на сонейку.

А дождж тым часам
да Бабы-Ягі-Качаргі
збіраўся.
А Баба-Яга ляжыць мёртвая,
а над ёю пісьмо:
«Дожджык, дожджык,
мілы галубочак,
ты ж мяне любіў,
а сам маланкай забіў».

Заплакаў дождж – снег пайшоў
і з той пары дождж
капае толькі тады,
калі сумуе па маме Бабе-Язе.

Іванка Карсунскі,
*Зорны Шлях*, пяты клас НШ
свсв. КіМ у Беластоку

# Пакахаю толькі беларусачку!

*Гутарка з **Крыстыянам Паскробкам**, гімназістам з Нарвы, шматразовым лаўрэатам конкурсу «Беларуская гавэнда», найстарэйшым (стажам) удзельнікам Сустрэч „Зоркі".*

Крыстыян Паскробка (пасярэдзіне) з сябрамі

**Оля Салавянюк („Парнасік"):** *— Мы ведаем, што Ты некалькі разоў перамагаў у конкурсе „Беларуская гавэнда". Ці Ты сам выбіраеш творы для выступленняў?*

**Крыстыян Паскобрка:** — Не, я сам не падбіраю твораў. Мне падбірае іх пані Ніна Абрамюк. Яна дае мне некалькі твораў, а я выбіраю адзін і прадстаўляю яго. Мая настаўніца Ніна Абрамюк вучыць мяне ад першага класа, гэта вельмі добрая настаўніца.

**О.С.:** *— На Сустрэчах „Зоркі" мы мелі магчымасць пабачыць Твой артыстычны маналог. Мяне ўразіла Твая ангажаванасць. Ці хочаш стаць прафесійным акцёрам?*

**К.П.:** — Яшчэ не ведаю, што ў жыцці буду рабіць. АКЦЁРАМ? Не ведаю... Час пакажа.

**О.С.:** *— Ты — стараста ў сваім класе. Разумею, Ты асоба адкрытая, умееш вырашаць розныя праблемы.*

**К.П.:** — Так, я класны стараста. Я адкрыты на іншых, не баюся выказваць сваіх поглядаў. У маёй галаве многа задум, якія стараюся ажыццяўляць.

**О.С.:** *— Жывеш у невялікай вёсцы Ваські. Ці маеш там сяброў, з якімі можаш гаварыць па-свойму?*

**К.П.:** — Сяброў маю ў школе. Мая вёсачка вельмі малая і ў мяне там толькі двух сяброў і размаўляю з імі па-свойму. А як інакш? Па-польску ў нас ніхто не гаворыць, таму што гэта іншая мова. Мы — беларусы і наша мова — беларуская. Мы не гаворым на літаратурнай мове, а толькі на дыялекце.

**О.С.:** *— Ці Ты перажыў ужо сваё першае каханне? Якія дзяўчаты Табе падабаюцца і ці мог бы Ты закахацца ў дзяўчыну, якая не гаворыць па-беларуску?*

**К.П.:** — Ой, цяжкае пытанне. Я не перажыў яшчэ свайго першага кахання. Я не мог бы пакахаць дзяўчыну, якая не гаворыць па-беларуску. Таму, што маглі б узнікнуць непаразуменні. Так думаю. Падабаюцца мне дзяўчаты, якія гавораць па-беларуску. Яны інтэлігентныя, паказваюць, што шануюць сябе і сваю мову.

**О.С.:** *— У чым Табе дапамагае веданне беларускай мовы?*

**К.П.:** — Веданне беларускай мовы дапамагае мне ва ўсім. Мы мусім гаварыць па-беларуску, таму што калі мы перастанем, знікне наша мова, загіне і мы.

**О.С.:** *— Ці хацеў бы Ты ў наступным годзе прыехаць на Сустрэчы „Зоркі"?*

**К.П.:** — Пэўна, што хацеў бы. Тут файна. Раз прыедзеш і хочацца вярнуцца!

**О.С.:** *— Дзякую за размову.*

## Зорка — сімвал, які дорыць натхненне

Слова зорка мае ў сабе многа цеплыні. На яе мы глядзім у неба, яна вызначае нам шлях, дарогу да дому, гэта супольны сімвал закаханых.

Гэта таксама сімвал шчасця (кажуць людзі: *хтосьці нарадзіўся пад шчаслівай зоркай*). Зорка ўвайшла і ў літаратуру. Яна натхняла паэтаў, празаікаў, песняроў. Янка Купала напісаў верш «Не пагаснуць зоркі ў небе» (1911 год), які стаў неафіцыйным гімнам эмігрантаў у міжваенны перыяд. Адзін з наступных яго вершаў таксама называецца «Зоркі». Усе мы ведаем рамантычную «Зорку Венеру» Максіма Багдановіча. Гэта толькі некалькі з многіх прыкладаў. І гэта доказ на тое, што зорка з'яўляецца нашым несмяротным беларускім сімвалам. Яна свеціць у небе і ў нашай беларускай культуры.

**Наталля Васько,**
„Зорны шлях", II клас белліцэя ў Гайнаўцы

## Кулінарны куточак

## Хрусцікі

прадукты:
- 600 грам мукі
- I яйка
- 6 жаўткоў
- 3 лыжкі густай смятаны
- I масла
- цукровая пудра

Падрыхтаваць цеста і паставіць яго на 30 хвілін у халадзільнік. Раскачаць цеста і выразаць з яго паяскі, пасля разрэзаць шчыліну ў іх сярэдзіне і скрунуць з паяска свідры. Хрусцікі смажым у глыбокім алеі, пасля кладзем іх на папяровы ручнік, каб выдаліць тлушч. На канец прыпудрыць цукровай пудрай. Смачна есці!

Рэцэпт падрыхтавалі Зузя Кардзюкевіч і Оля Салавянюк з рэдакцыі „Парнасік"

## Польска-беларуская крыжаванка № 29-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 25:**

Кропка, джут, шпак, гумар, Канада, параход, кудла. Падмурак, круг, пік, тукан, марак, пашана, параход, ара, до, кладка.

Узнагароды, наборы аздобнай паперы, выйгралі **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Бартэк Чэмярыс, Тымэк Петручук** з Нарвы. Віншуем!

Fin, Jawa, Imię, Portal, Fakt, Książka, Step, Park, Toast, Artysta, Winda, Ona, Tort, Festyn, Prąd, Ptak, Lipa

# 120 гадоў з дня нараджэння
# Уладыслава Казлоўскага

**29 чэрвеня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, літаратара, публіцыста, паэта, выдаўца, спартыўнага аглядальніка з Сакольшчыны Уладыслава Казлоўскага (Казлоўшчыка, 1896-1943). Сёння яшчэ раз хочацца прыгадаць пра нашага таленавітага земляка.**

У сакавіку 1941 года група беларускіх пісьменнікаў наведала Вільню. Сярод іх быў і літаратурны крытык Алесь Кучар, той самы Кучар, які ў БССР пісаў даносы на многіх пісьменнікаў. Падчас сустрэчы ў Вільні, Алесь Кучар хваліў пісьменнікаў Заходняй Беларусі за тое, як успамінаў Язэп Малецкі, што вытрывалі польскую акупацыю. Там ён упершыню сустрэўся і з заходнебеларускім грамадскім і палітычным дзеячам, выдаўцом, паэтам, публіцыстам Уладыславам Казлоўскім, які меў літаратурны псеўданім Казлоўшчык. „Мы ў БССР пра Казлоўшчыка думалі, як пра нейкага амерыканскага каўбоя, што абвешаны разбойнімі нажамі ды наганамі. А тут — вельмі сімпатычны чалавек. Мы крыху знаем вашую творчасць, яна даволі арыгінальная і цікавая, народная", — казаў Алесь Кучар.

Уладыслаў Казлоўшчык пасля такіх слоў вырашыў пачытаць вязанку сваіх патрыятычных вершаў, што яшчэ больш раззброіла бальшавіцкую насцярожанасць Кучара. Ён нават прапанаваў Казлоўшчыку пісаць творы ў бальшавіцкім духу і раіў далучыцца да савецкай рэчаіснасці.

Да савецкай рэчаіснасці такія яркія асобы, як Уладыслаў Казлоўшчык, далучыцца не маглі. Яны добра ведалі пра тую савецкую рэчаіснасць, якая ў 1920-х — напачатку 1940-х гадоў адбывалася ў БССР. Хаця ў той самы час не проста і вельмі цяжка жылося і беларусам Заходняй Беларусі пад Польшчаю.

Уладыслаў Казлоўскі нарадзіўся 29 чэрвеня 1896 года ў вёсцы Залессе Сакольскага павета на Беласточчыне ў беларускай каталіцкай сям'і. З самых малых гадоў пачаў цікавіцца жыццём тутэйшых людзей, таму сам хутка стануўся нацыянальна свядомым беларусам. Пачатковую і сярэднюю адукацыю ён набыў у Сакольцы і Гародні.

У 1916 годзе юнак з Сакольшчыны паступае ў каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільню. Там ён актыўна пашырае між клерыкаў беларускую свядомасць. А ў 1919 годзе, калі засноўвалася ў Вільні Беларуская вайсковая арганізацыя, пакідае вучобу ў духоўнай семінарыі, бо марыць сваё жыццё звязаць з беларускім нацыянальным войскам. Адначасова з гэтым, каб не сядзець бясчынна ў Беларускай вайсковай арганізацыі, якая тады яшчэ праводзіла толькі рэгістрацыю сяброў, ён запісваецца на беларускія кароткачасовыя настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай радзе Віленшчыны і Гарадзеншчыны.

Курсы Уладыслаў Казлоўскі паспяхова скончыў і Цэнтральнай радай быў прызначаны ў Сакольскі павет для арганізацыі там беларускага школьніцтва. Але арганізоўваць курсы там было няпроста, таму што польскія павятовыя чыноўнікі да гэтага адносіліся адмоўна. Тады юнак зноў вяртаецца ў Вільню. А калі засноўвалася ў Менску Беларуская вайсковая камісія, пераязджае ў Менск.

Напачатку 1920 года Уладыслаў Казлоўскі працуе інструктарам Беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і кааператыўнага жыцця ў Ігуменскім павеце. А ў траўні гэтага ж года Беларускай вайсковай камісіяй ён высылаецца ў Варшаўскую школу падхарунжых.

Пасля заканчэння ваеннай школы Уладыслаў Казлоўскі прызначаецца інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ўжо быў эвакуіраваны з Менска



Рэдакцыя „Беларускай газеты" і „Голасу вёскі". Сядзяць (злева направа): Уладыслаў Казлоўскі, Наталля Арсеннева, Аляксей Сянкевіч. Стаяць (злева направа): Уладзімір Кушаль, Антон Адамовіч, Мікола Караленка. Мінск, снежань 1942 г.

ў Лодзь. Праўда, праз год, у сувязі з ліквідацыяй беларускіх аддзелаў, пераводзіцца ў польскае войска як кадравы афіцэр.

Будучы паручнікам чыннай службы, Уладыслаў Казлоўскі не парывае сувязі з беларускім нацыянальным рухам. А ў 1930 годзе звальняецца са службы і зноў пераязджае ў Вільню. Там ён поўнасцю аддае сябе творчай працы і палітыцы. Спачатку арганізоўвае гімнастычнае таварыства „Гайсак", пасля з'яўляецца выдаўцом і рэдактарам часопіса „Новы шлях" і адначасова адным з арганізатараў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНСП). Партыя праіснавала з 1933 па 1943 год. Старшынёй партыі быў абраны Фабіян Акінчыц. У кіраўніцтва партыі ўваходзілі, ак-




тывісты партыі Уладыслава Казлоўскага, Альбін Стаповіч, Павел Арцішэўскі, Лявон Дубейкаўскі, Кастусь Юхневіч, Алёізы Пецюкевіч і Антон Сапко. Кіраўніцтва БНСП жадала, каб у будучыні беларускі народ аб'ядналыся вакол гэтай адной партыі.

У 1937 годзе БНСП была забароненая польскімі ўладамі, і частка сяброў на чале з Акінчыцам у 1938 годзе выехалі ў Германію, дзе Акінчыц узначаліў беларускае бюро ў нямецкім Міністэрстве прапаганды. У 1940 годзе БНСП на чале з Уладыславам Казлоўскім нелегальна дзейнічала на Віленшчыне.

Адразу пасля нападу Германіі на СССР, у ліпені 1941 года, Уладыслаў Казлоўскі паспрабаваў легальна аднавіць дзейнасць партыі, аднак Альфрэд Розенберг, кіраўнік акупаваных усходніх абласцей, забараніў яе. Фабіян Акінчыц і сябры партыі хутка расчараваліся ў немцах, бо ўбачылі, што яны не нясуць абяцанай „новай Еўропы", а славян хочуць знішчыць і зрабіць рабамі. У той жа час астатні беларускі нацыянальны актыў не давяраў сябрам БНСП і лічыў людзьмі немцаў.

Першыя творы Уладыслава Казлоўскага (Казлоўшчыка) з'явіліся ў перыядычным друку ў 1920-х гадах. Гэта былі публіцыстычныя артыкулы на спартыўныя тэмы. Тады і выходзяць у свет яго першыя кнігі „Фізічнае выхаванне грамадзянства" (1927) і „Аб фізічным выхаванні ў беларусаў" (1928).

У 1930 годзе ён актыўна супрацоўнічаў з часопісам „Шлях моладзі", дзе вёў рубрыку „Куток для спорту". Сам пісаў спартыўныя артыкулы, рэпартажы і друкаваў на старонках гэтага часопіса. Значны рэзананс у той час мелі яго матэрыялы „Рухавыя гульні і ігры" (1930 г., № 3), „Аб нямецкай гімнастычнай сістэме" (1930 г., № 5), „Ход-спацыр" (1930 г., № 6), „Плаванне" (1930 г., № 7) і многія іншыя.

Адначасова са спартыўнымі артыкуламі добра пісаліся і літаратурныя творы. З друку выходзяць яго кнігі „Беларускія народныя песні з Сакольскага павету" (1930), „Плач Беларускай Старонкі — маткі па дзетках сваіх рэнегатах" (1930), вершаваны раман „Путы кахання" (1932), зборнік паэзіі „Шляхам змагання" (1935), вершаванае апавяданне з Казюковага кірмашу ў Вільні „Казюк на кірмашы" (1940).

У сваіх вершах і празаічных абразках Уладыслаў Казлоўшчык часцей за ўсё звяртаўся да беларускай моладзі. Яго верш „Песня беларускай моладзі" быў тады гімнам беларускіх юнакоў і дзяўчат. Дарэчы, і музыку напісаў сам аўтар. Песня пачыналася так:

*Мы бойкая моладзь — арлы маладыя,*
*За намі ідзе воля братоў.*
*У душах нашых шчырых ідэі святыя.*
*А ў жылах — Крывіцкая кроў...*

У № 4 за 1930 год быў надрукаваны верш Уладыслава Казлоўшчыка „Беларусь, устань!". Польскія ўлады палічылі яго крамольным і сканфіскавалі ўвесь наклад „Шляху моладзі".

У гады Другой сусветнай вайны ў Менску выдавалася „Менская газэта", якая з 5 лютага 1942 года памяняла назву на „Беларускую газэту". Спачатку яе рэдагаваў Аляксей Сянькевіч, а затым — Уладыслаў Казлоўскі. І першы, і другі былі вельмі добрымі рэдактарамі. Наклад „Беларускай газэты" дасягаў 50 тысяч асобнікаў. Газета сапраўды была цікавай. Яна інфармавала пра дзейнасць Беларускай народнай самапомачы, Беларускай краёвай абароны, Беларускай цэнтральнай рады, Саюза беларускай моладзі, ролю і значэнне якіх значна перабольшвала, а любыя іх акцыі з захапленнем каментавала. Шмат увагі аддавала праблемам моўнай палітыкі, выкладання ў пачатковай школе, падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў, выхавання нацыянальнай самасвядомасці, арганізацыі культурнага жыцця на месцах.


Wilnia, 15 Červienia 1937 h. Hod IV

НОВЫ ШЛЯХ

Камунікат Праваду Б.Н.С.П.

Prowad B.N.S.P

Газета „Новы шлях", якую рэдагаваў Уладыслаў Казлоўскі.

Газета друкавала папулярныя нарысы па гісторыі і культуры Беларусі, многія з якіх яўна былі палітызаваныя і блізкія да публіцыстыкі, матэрыялы па гісторыі беларускай эміграцыі, пра беларускія традыцыі і абрады, паходжанне беларускай сімволікі і іншыя. На старонках газеты змешчаны ўспаміны ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, матэрыялы пра сталінскія злачынствы, творы беларускіх літаратараў, літаратурна-крытычныя артыкулы, рэцэнзіі і г.д. Але ўсё ж шэраг публікацый газеты канца 1943 — пачатку 1944 гадоў былі прасякнуты песімізмам, асуджанасцю, расчараваннем у выбраным шляху. Аднак гэтыя настроі не паўплывалі на антысавецкі кірунак выдання.

У лістападзе 1943 года нехта Іван Шнігер зайшоў у рэдакцыю „Беларускай газэты" і стрэліў ва ўпор з пісталета ў яе рэдактара. Стрэл пачула Наталля Арсеннева, якая выбегла з суседняга пакоя і закрычала: „Трымайце, трымайце яго! Гэта той бандыт, які забіў спадара Казлоўскага". Але было ўжо позна...

Тысячы беларусаў праводзілі ў апошні шлях нашага здольнага грамадскага дзеяча, палітыка і літаратара. Часопіс „Новы шлях" адзначыў тады, што Уладыслаў Казлоўшчык „стаўся чарадной ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі і загінуў як жаўнер пры спаўненьні сваіх абавязкаў". А беластоцкая газета „Новая дарога" 12 снежня 1943 года пісала: «Дня 13 лістапада 1943 года ў Менску, пры выкананні сваіх нацыянальных абавязкаў трагічна загінуў ад рук нікчэмных бальшавіцкіх бандытаў рэдактар „Беларускае газэты" Уладыслаў Казлоўскі, народжаны ў 1896 годзе ў вёсцы Залесьсе Сакольскага павету. Паховіны адбыліся дня 22 лістапада на Кальварыйскіх каталіцкіх могілках у Менску. Падаючы гэтыя сумныя факты да ведама грамадзянства, рэдакцыя „Новай Дарогі" выказвае сваё глыбокае спачуцьцё асірочанай сям'і нябожчыка. Чытачы й рэдакцыя „Новай Дарогі"».

Сапраўды, Уладыслава Казлоўскага пахавалі на Кальварыйскіх могілках у Мінску. На вялікі жаль, магіла яго згубілася. Адзіны сведка, хто мог бы сёння падказаць, дзе пахавалі Уладыслава Казлоўскага, гэта Антон Шукелойць, які жыве ў ЗША.

Уладыслаў Казлоўскі заўсёды смела і аддана заклікаў свой народ ісці шляхам змагання, а тых, хто „на печы ў кажуху" сядзіць, „хай волі гром грыміць і будзіць, што дрэмлюць". Паэт шчыра верыў у Беларусь і ў крывіцкі дух, а таксама спадзяваўся, што „прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся і ў Маткі я Роднай кутка папрашу".

Сяргей ЧЫГРЫН

# „Заўсёды хадзіла сваімі дарогамі”

## Паводле кнігі ўспамінаў і лістоў Зоські Верас

**Пад канец 2015 года пабачыла свет кніга Зоські Верас „Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты”, якую падрыхтаваў да друку Міхась Скобла. Шмат месца адводзіцца ў ёй Сакольшчыне — Радзіме дзядоў.**

***„Сьняцца...”***

„Заўсёды хадзіла сваімі дарогамі”, — выкарыстаўшы вядомы фразеалагізм, Зоська Верас пісала, каб падкрэсліць, што заўсёды была вернай праўдзе, якую ведала, што заўсёды будзе шанаваць людзей, якіх у савецкім часе ашальмавалі. Будзе змагацца, каб імёны іхнія не зніклі.

Мне ж падаецца магчымым напоўніць гэтыя яе словы і іншым зместам: заўсёды хадзіла пані Людвіка сцежкамі-дарогамі роднае Сакольшчыны. Хай нават з'ехала адтуль і ніколі больш не вярнулася. Памяць вяла яе туды.

У многіх лістах Зоська Верас згадвае мясціны сваіх дзядоў, самыя ўлюбёныя, самыя памятныя: „Тры вярсты ад Новага Двара ў бок Кузьніцы знаходзіўся фальварак майго дзеда — Альхоўнікі”. Тлумачыць, што Вільня, дзе давялося пражыць многа дзесяцігоддзяў, роднай так і не стала. Зусім іншыя стасункі з Сакольшчынай, непарэдную сувязь з якою страціла, але памяць пра мінулае жыла ў яе душы нязводна. Вярэдзіла гэта сэрца яшчэ і таму, што нікога з іх радзіны ўжо не было на свеце. За ўсіх несла ў сабе памяць роду: „Адзіная астаўшаяся з нашчадкаў сям'і Садоўскіх, часта думаю аб маіх дзядах і ў думках наведваю як мейсца іх апошняга спачынку, так і дом у Альхоўніках”.

Светлым адхланнем для Людвікі Антонаўны было ліставанне з Казімірам Грынкевічам з Новага Двара. Пісала да яго вельмі цёплыя, шчырыя лісты. Ён быў пляменнікам ксяндза Францішка Грынкевіча, заснавальніка Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Шчыры беларус, у тым часе адзіны на ўсё мястэчка. Ягоная цётка, Юзэфа Фалькоўская, была сябрам гуртка, падтрымлівала сувязь з Зоськай Верас. Менавіта ад яе даведалася пісьменніца, што Казімір даглядае магілу яе дзядоў. Гэтая навіна яе вельмі ўзрушыла. У лісце выказала шчырую ўдзячнасць да гэтага незнаёмага чалавека: „Вялікае і гарачае Вам за гэта дзякуй!” Гэты ліст, дасланы спадару Казіміру ў 1974 г., перадае яе стан: „Не паверыце, зь якім хваляваньнем пішу гэты ліст! Ужо сам факт, што паедзе ён у Новы Двор, моцна мяне ўзрушыў. Каб не граніца, ну і не мае гады, зь якой радасьцю паехала б я адведаць дарагія мейсцы!..” З Сакольшчынай звязвала Зоську Верас і памяць пра дзейнасць ГГБМ. Часта згадвае, што менавіта адтуль паходзілі многія актыўныя сябры гуртка: „З Сухаволі паходзіў Адольф Зянюк. Там было яшчэ шмат іншых сьвядомых беларусаў”.

Перажывала, што „цяпер гэты куток, разам з Новым Дваром, зусім астаўлены на долю лёсу. Беластоцкая беларуская арганізацыя топчацца толькі каля Гайнаўкі ды крыху — каля Белавежы. А далей — ні носа. Хіба таму, што каля Гайнаўкі і часткова Саколкі ёсьць шмат беларусаў — праваслаўных, а каля Сухаволі, Новага Двара — пераважна каталікі. Вось яны, мусі, і не патрэбныя, імі не варта займацца”.

Родныя мясціны так і не адпусцілі Людвіку са сваіх абдымкаў. Прызнавалася яна: „І цяпер яны мне сьняцца...”

***Людвіка — унучка Людвіка***

Заўсёды ведала, што дзядуля пані Людвікі, гаспадар Альхоўнікаў Садоўскі, меў гэтае імя — Людвік. Але ніколі не давялося мне паставіць тыя імёны побач, як тое зрабіла сама пісьменніца, падпісваючы ліст, які адаслала на недасяжную для яе, старэнькай і хворай, Радзіму, што, да таго ж, апынулася за мяжой.

„Людвіка Войцікава (зь Сівіцкіх, унучка Людвіка Садоўскага)”, — усе свае прозвішчы сабрала, каб ведалі адрасаты, хто ім піша. А ліст пісала, каб падзякаваць за памяць пра яе дзядоў. Каб выказаць, якою дарагою была для яе тая мясціна: „Альхоўнікі заўсёды, дзе б я ні была, былі для мяне




дарагім мейсцам — быццам Бацькаўшчынай”. „Быццам”, бо нарадзілася далёка, на Украіне, у мястэчку Меджыбож, дзе нёс службу яе бацька, але самае светлае з дзяцінства звязана менавіта з Сакольшчынай. Ды і пазней сюды давялося пераехаць ёй з маці з Мінска, тут нарадзіўся яе сын Антон, адсюль з'ехала ў Вільню. Назаўсёды.

Думаецца зараз: мо і назвалі яе ў гонар дзядулі?

***Пра Гальяша Леўчыка***

Успаміны Зоські Верас пра Гальяша Леўчыка вядомыя з 1980 г., ад часу выхаду кнігі „Доля і хлеб”. Былі яны раней у штотыднёвіку „Літаратура і мастацтва”, у 1977 г. Нагадаю пра альбом Людвікі для вершаў, куды і Леўчык упісаў свой трыялет. Трыялетаў тых захавалася да болю мала. А было ж каля паўтары сотні (у розных крыніцах розныя лічбы), на цэлую кнігу „Мудра прыгаворка — соладка і горка”, якая страцілася, бо выдадзеная не была. У тым трыялеце — мудрасць, усприняцце смерці як натуральнай з'явы, што ад чалавека не залежыць, а жыцця — з дзейсным аптымізмам (недарэмна ж з клічнікам), бо яшчэ якая няпростая гэта „штука” — зрабіць жыццё вартым, патрэбным, не змарнаваць яго:

Умерці ня штука, а што жывем! —
Так розум нам гамоніць.
І так калісь у пяску згніем...
Умерці ня штука, а што жывем!

Што Людвіка Сівіцкая заўсёды цікавілася раслінамі роднае зямлі, збірала назвы на беларускай мове, вядома, што яе „Батанічны слоўнік” быў выдадзены і перавыдадзены, яшчэ як вядома. А намовіў сабранае апрацаваць і слоўнік выдаць Гальяш Леўчык. Пра гэта напісаў у лісце да *залатое сястронкі* ад 7 мая 1915 года: „Прыйшло мне ў галаву, што ў Вас можа стварыцца словазборык (слоўнік) беларускіх лекарскіх зёлак. Ну, ведама, не цяпер — калісьці. Добра будзе ведаць, як кожная зёлка панашаму завецца”.

У лісце паэта ад 1 сакавіка таго ж года выказаны шчыры клопат патрыёта пра будучыню беларускае справы. Моцна хвалявала яго, што ж будзе з Краем па вайне. Хоць вельмі перажываў, але аптымізму пазбаўлены не быў: „Трэба бачыць шмат — шмат тых гор і каменьняў, што нам будуць спатыкацца па дарозе. І я бачу і прадугадаю — і ня падаю духам, а цярпліва, зь сьветлым узорам на будучыню, падахвочваю другіх і гарну зярнятка як магу да агульнай нашай беларускай скрыні з воклікам: „Жыве Беларусь — духам старэнька, а сэрцам маладзенька!” Сёння неадной гэты воклiч цалкам цытуецца даволі часта.

Былі гэтыя ўспаміны без скаротаў надрукаваныя ў мала даступным „Куфэрку Віленшчыны” ў 2003 годзе.

***Як доўга!..***

У лісце да Вацлава Ластоўскага, які датуецца 15 верасня 1921 г., а друкуецца ўпершыню (дарэчы, ні адзін ліст з ранейшае кнігі, як пазначае тое Міхась Скобла, не паўтараецца), чытаем: „Маю цэлы зборнічак вершаў і твораў белетрыстычных, а што мне зь іх? У цяперашнія часы паэзіяй не цікавіцца ніхто”. Факт для мяне невядомы. Не тое, што паэзіяй не цікавіцца ніхто. Ёю заўсёды цікавіліся нямногія. А што ўжо тады кніга магла б быць.

Ізноў жа: якая ахвярнасць дзеля іншых. Кнігу зняволенаму Міхасю Машару выдала, пра што паэт нават не ведаў. Падаравала, калі з турмы выйшаў. Дзіцячыя часопісы „Заранка” і „Пралеска” выдавала, „Беларускую борць” для пчаляроў рабіла. А сваю кніжку сама так і не выдала. Ажно пакуль не зрабілі гэта нашы пісьменнікі, шануючы апошнюю нашанiўку, у Саюз яе запрасіўшы.

Сталася гэта толькі ў 1985 годзе. Выйшлі нарэшце яе „Каласкі”. Мяркую, што ў назве, што адпавядае нашаніўскай эстэтыцы, апроч многіх іншых сэнсаў, захаваны і „Колас беларускае нівы” — альманах Гродзенскага гуртка беларускае моладзі. Каласкі з таго коласа.

Як доўга, ажно шэсцьдзясят чатыры гады, чакала яна сваю адзіную мастацкую кнігу...

***Адна з сотні***

У бібліятэцы беларускага аддзялення Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, якую ў гэтым годзе расфармавалі: навошта тут бібліятэка? — ёсць гэтая кніжачка з аўтографам Зоські Верас. Вельмі я гэтым ганарылася. Прасіла бібліятэкараў, каб на рукі студэнтам надоўга не давалі, бо нават з факсімільнага „Вянка” вершы павыразалі.

Спытала ў Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, адкуль гэты музейны экземпляр. Адказ быў прадказальны: праз яго ў бібліятэку і трапіў.

З ліста Людвікі Антонаўны даведваемся: перадала ў Мінск грошы „купіць „Каласкоў” цэлую сотню, каб хапіла разаслаць школам і знаёмым”. А пасля ўсе тыя кніжкі падпісала, каму паслала, каму перадала.

Адну з сотні — нашаму ўніверсітэту.

***Гнеў на літасць***

Была Людвіка Антонаўна асобай, што вельмі праймалася ўсялякаю няпраўдай, імгненна загаралася, перажывала, пратэставала. Колькі такіх пратэстаў знаходзім у яе лістах!

Здавалася, ужо ніколі таму чалавеку, што няпраўду напісаў, і не даруе. Што не будзе ліст лагодным, пазнавалася адразу — па звароце. Так, да знаёмага Алеся Бачылы, які яе наведваў, раптам звяртаецца *Паважаны грамадзянін*. Паважаны — гэта нязменна. Тлумачыць тыя прыкрыя памылкі, непаразуменні, якія зрабіў ён у сваім тэксце ў „Маладосці”. Ды надоўга трывала яе злосць. У хуткім часе паразумеліся, відаць, перапрасіў, паабяцаў, што выправіць. Ізноў стаў — *Паважаны Аляксандр Мікалаевіч*, да якога піша з пашанай і шчырасцю. І тут раптам ліст, які пачынаецца незвычайна. Столькі ў тым пачатку роспачы: „Ах, Аляксандр Мікалаевіч, што мне з Вамі рабіць?” І праўда: што рабіць з чалавекам, пісьменнікам, які ў кнігу сваю перанёс „артыкул з „Маладосці” так, як ён быў — без ніякіх паправак!”

Цярплівая, але настойлівая ізноў даводзіць адрасату, у чым памылкі, пералічвае іх па пунктах. Ажно шэсць назбіралася. Ды і сёмы. Пра некарэктнасць аўтара. Не без крыўды, але цалкам карэктна: „Скуль Вы ўзялі мой фотаздымак? Ай, ай, ай... І не запыталіся мяне аб згодзе на публікацыю...”.

Але і гэта было даравана. Людвіка Антонаўна ўмела зменяць гнеў на літасць.

Ізноў пісаліся лісты да *Паважанага Аляксандра Мікалаевіча*...

***„Зьмілуйцеся!..”***

Лепш ужо, калі тутэйшыя „рускія” кажуць, што не разумеюць, што такое гарбата, чым „прасунутыя” беларусы ў першым аднаўленым пакаленні пачынаюць даказваць, што гарбата з зёлак, а чай з чаю. Таму правільна — чай. Вось жа, знайшла ў лісце да Георгія Валкавыцкага просьбузакліканне Людвікі Антонаўны: „У мяне да Вас вялікая, вялікая просьба: калі будзеце што папраўляць (гэта Ваша рэдактарскае права), то зьмілуйцеся — не зьмяняйце гарбату на чай і ліст на пісьмо! Паверце, я страціла шмат часу на студываньне цэлай кучы старых лістоў да мяне ад розных асоб з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны, пісаных чыстай, прыгожай мовай, і трымаюся гэтай мовы з усёй сілы”.

Усё зразумела? Мяркую, з самай знакамітай зёлачніцай спрачацца не будзеце.

***Папраўляць саму Людвіку Антонаўну,***

зразумела, не вельмі карэктна. Яе даволі катэгарычнае „Я помню ўсё”, што Міхась Скобла зрабіў назвай ранейшае кнігі ўспамінаў і эпісталярыю, — амаль праўда. Але ж чалавечая памяць, мо і не на жаль, часам нешта з'інача вае, часам апускае. Ды і сама Людвіка Антонаўна неаднойчы ў лістах піша: пра тое не памятаю. Ці вельмі эмацыйна: „А я, хоць забіце, гэтых прозвішчаў не помню”. Таму не папраўляць, а ўдакладняць патрэбна, што ўкладальнік і робіць вельмі тактоўна. Так, калі аўтарка перанесла Радзіму Адама Ягоравіча Багдановіча на сваю ўлюбёную Гарадзеншчыну, то ў каментарыях пададзена дакладнае месца: мястэчка Халопенічы Барысаўскага павета (Міншчына).

Дазволю сабе ўдакладніць і каментарый. Людвіка Антонаўна піша, што Лявон Дубейкаўскі „жаніўся з сястрой нарэчанай Івана Луцкевіча з дому Мэнке...”. Міхась Скобла, ведаючы факты, каментуе не зусім дакладна: „Маецца на ўвазе Юльяна Мэнке (Вітан-Дубейкаўская; 1886-1970) — мастацтвазнаўца, грамадская дзеячка, мемуарыстка”. Ужо з таго, што ў дужках пазначана прозвішча Юльяны — Дубейкаўская, зразумела: менавіта яна, а не яе сястра, стала жонкаю вядомага архітэктара. Юльяна Мэнке была з Іванам Луцкевічам да ягонае апошняе хвіліны, да споведзі намовіла, вочы свайму каханаму закрыла, пахавала. Было тое ў вядомым курорце Закапаным. Пазней яна выйшла за Дубейкаўскага. Так праз лёс гэтае жанчыны перасекліся жыццёвыя шляхі двух знаных беларусаў.

***Адзін боль***

Ледзьве не ў кожным лісце наракае Людвіка Антонаўна на хваробы, на боль, што амаль не адпускае. Бо піша да людзей блізкіх. Але тут жа схамянецца і перавядзе гаворку: гэтая тэма нецікавая, неяк будзе...

З болем жыла ўсё жыццё. Была хворай з дзяцінства. Перанесла некалькі аперацый. Рана страціла слых.

Верыла ў гаючую сілу зёлкаў. Ведала іх, як мала хто. Усім раіла, што і ад якое хваробы прымаць.

Верыла, што трымае яе на зямлі, з маленства нямоглую, зямля, на якой жыла ў літаральным сэнсе, бо ўсё жыццё працавала на агародзе, у садзе, на кветніках.

Так здарылася, што ейнымі лекарамі, праўда, у асноўным па перапісцы, былі гарадзенцы. Ім давярала. Першы Мікалай Марцінчык. Скардзілася яму ў канцы ліста: „Пішу, стараюся забыцца аб сваіх болях. Ня ведаю, ці гэта радзікуліт, ці што іншае, але баліць крыжавіна, пад рэбрамі, рэбры і г.д. Ужо ня ведаю, што з гэтым рабіць. Проста ўся — адзін боль”. Быў гэта толькі 1978 год. Яшчэ ёй нямала заставалася тое болю трываць. Яшчэ і лекара свайго перажыве.

Да лекара Ігара Котава ліст пачынае з адчайнае просьбы: „Ратуйце мае ногі! Так баляць, так баляць... Не даюць спаць па начах, круціць кожную костку, цягне кожную жылку”.

Пытанне яе гучыць рытарычна: „Як тут жыць, калі кожная ноч — мука, барацьба з болямі, раніцай — барацьба са слабасьцю”. Што на гэта можна парадзіць? Толькі шчыра пашкадаваць, што столькі цярпення на долю гэтае незвычайнае жанчыны выпала.

Але і ў такім стане пра справы „Паходні” гарадзенца пытае.

Нат і ўявіць немагчыма, як пражыла яна апошні свой час, калі штодзённая папяровая праца з'ела яе вочы і тыя слугаваць адмовіліся. А яшчэ ж амаль два гады засталася.

***Дзякую Вам,***

Шаноўная Алена Глагоўская. З кнігі даведалася, што гэта Вы фінансавалі факсімільнае выданне „Беларуска-польска-руска-лацінскага батанічнага слоўніка”, якое і я маю ў сваёй бібліятэцы.

Шаноўны Алесь Смалянчук, які ў віленскім архіве знайшоў невядомыя лісты Людвікі Антонаўны.

Ну, а Міхасю Скоблу — то ўдзячнасць мая бязмежная. Дзякаваць — не надзякавацца.

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**

Вяртаючыся да надрукаванага

# Каб больш каляровай была восень жыцця

**Я з зацікаўленасцю прачытаў артыкул пад загалоўкам „Цана восені жыцця” Яўгена Вапы („Ніва” № 28 ад 10 ліпеня 2016 года). Асабліва звярнуў увагу на тое, як патрэбы людзей пажылога ўзросту разумеюць самаўрадаўцы. Аказваецца, што наогул праблемамі аблягчэння лёсу старэйшых людзей яны мала займаюцца. А сеніёрам належыцца пашана.**

Мне вядома, што з клопатам пра пажылых людзей у паасобных гмінах бывае па-рознаму. Вось у Міхалоўскай гміне ўвялі даплаты да лекаў, часткова зменшылі падатак, паклапаціліся пра маршруты аўтобусаў ПКС цераз закінутыя сярод палёў і лясоў вёскі (а былі яны спынены праз нейкі час). У Гарадоцкай і Міхалоўскай гмінах вяртаюць таксама маршрут пасажырскага поезда, які не ездзіў ужо, між іншым, у Валілы, шаснаццаць гадоў. У Міхалоўскай гміне (яна ў добрай фінансавай форме) штогод аднаўляюць дагэтуль запушчаныя вясковыя вуліцы ды гмінныя дарогі.

Вяртаюся я на свой панадворак — у Нараўчанскую гміну, у якой жыву. Я тут радным і солтысам Новага Ляўкова. У маім салэцтве 25 пажылых жыхароў. Сёлета трое памерла. Солтыс наведвае людзей г.зв. трэцяга веку і ведае іх патрэбы. Яны — пенсіянеры. Не патрабуюць шмат. Некаторыя ўдзельнічаюць у культурна-забаўляльных мерапрыемствах, якія ладзіць Польскі саюз пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы. Тыя, хто аплачвае складчыны, час ад часу атрымліваюць харчовыя прадукты. Калі атрымае іх больш, тады дасць і не членам ПСП. Калі ПСП арганізуе танцавальныя вечарыны, войт дае аўтобус, які прывозіць і адвозіць пенсіянераў.

Аднойчы мой сябра-пенсіянер не меў грошай і не мог купіць прыпісанага лякарства. Ён напісаў у ПСП і папрасіў, каб яму дапамаглі. А як жа, атрымаў пару соцень злотых. За фінансавай дапамогай звярталіся ветэраны да ўлад сваёй арганізацыі ў Варшаве і атрымлівалі па 500-600 злотых аднаразовай дапамогі ў год. Пра ветэранаў клапаціліся мясцовыя члены праўлення іхняй арганізацыі. Гэтак жа ёсць і з настаўнікамі-пенсіянерамі. У некаторых выпадках ім хопіць звярнуцца за дапамогай да ўлад Саюза польскіх настаўнікаў. Але трэба быць членам СПН.

За дапамогай можна звярнуцца перш-наперш у гмінны асяродак сацыяльнай дапамогі, а ў некаторых выпадках да войта гміны. Майму суседу ў сярэдзіне зімы адключылі электраэнергію. Не меў ён грошай заплаціць рахунак. Не мае ён ніякага даходу, не знайшоў сабе пастаяннай працы. Сусед прыйшоў да мяне параіцца. Мы напісалі войту і ён знайшоў выхад з цяжкай сітуацыі майго аднавяскоўца.

Што можа солтыс? Я наведваю аднавяскоўцаў пажылога ўзросту ў іх хатах. Бяру з сабой „Ніву” і штоквартальнік „Над Нараўкай” (у маім салэцтве ўсе маюць „Ніву” з календаром і ўвогуле ахвотна яе чытаюць). Яны хочуць ведаць, што новае ў гміне, якія справы разглядаем на сесіях Гміннай рады. Пытаюць, як ім уладкаваць тую ці іншую для іх важную справу. А часта адзінокія старажылы рэдка калі выходзяць з дому і хочуць абмяняцца сваімі думкамі, звычайна пагаварыць з другім чалавекам. У іх столькі ўспамінаў з мінулага. Калі састарэлых бацькоў дзеці забіраюць у горад на зіму, тады солтыс наглядае за іх хатамі. І яны там не трывожацца.

Удалося мне паспяхова завяршыць такую справу: зараз два разы ў тыдні аўтакрама прывозіць харчовыя прадукты і прадае іх пасярэдзіне вёскі. І не трэба хадзіць за пакупкай кіламетр, а то і два (калі падавацца ў суседнюю вёску) у краму. А зараз так бывае, што просяць солтыса паехаць ды купіць лякарствы ў аптэцы. Раз ездзіў па іх — былі яны неабходны цяжка хвораму — у беластоцкую бальніцу. І, каб не быў солтысам, а толькі суседам, іх не выдалі б. Мог іх атрымаць толькі член сям'і. Прыкладаў такога і іншага роду дапамогі патрабуючым на восені жыцця ў мяне шмат.

Вельмі добра, што „Ніва” закранула тэму жыцця-быцця людзей пажылога ўзросту. Яны адчуваюць сябе ўжо нікому непатрэбнымі. А ім жа, часта ўжо бездапаможным, найцяжэй пражыць свой век. Прызнаю, што самаўрады (толькі мо не ўсе) не шукаюць сродкаў на забеспячэнне і аблягчэнне лёсу старэйшых людзей дзеля годнай старасці. Зараз будзе год як цераз Гарадзіска, Плянту, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Лешукі, Міхнаўку і Церамкі перасталі ездзіць аўтобусы ПКС. Падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы з гэтай праблемай выступілі толькі двое радных. Ад трынаццаці радных не было падтрымкі. А вось каму як каму, а старэйшым як даехаць да лекараў-спецыялістаў або на абследаванне ў бальніцу ў Беласток? І яшчэ адно. Закрылі нават амбулаторыю ў Старым Ляўкове. А раней лекарка прыязджала раз у тыдзень. Зараз падавайцеся ў Нараўку. Добра, што не спынілі рэйсавы прыватны аўтобус сярод дня. Ім можна ехаць з Лешукоў цераз Ляўкова і Нараўку ў Гайнаўку. Была пагроза, што спыняць гэты маршрут. За яго курсаванне гміна даплачвае. Радны з Новага Ляўкова стрымаў гэты намер войта.

Набалелыя праблемы па аблягчэнні становішча старых людзей патрабуюць жа ад уладароў ваяводстваў, паветаў і гмін сістэмных вырашэнняў. Пра гэта гаворыцца ў ніўскім артыкуле „Цана восені жыцця”. І гэта вельмі патрэбна. А што робіцца? Возьмем пад увагу такі факт. У Старым Ляўкове ёсць умовы, каб адкрыць дом для састарэлых людзей у апусцелай амбулаторыі. Толькі ніхто пра гэта не турбуецца. Усяго адзін раз узнімалі гэтую тэму падчас вясковага сходу ў пачатку гэтага года. І потым усё заглухла.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**






Сёлета спыніла сваё існаванне „Праграма Каліноўскага”, па якой мноства маладых і не вельмі маладых грамадзян Беларусі, зазнаўшы палітычны пераслед ва ўласнай краіне, атрымлівалі адукацыю ва ўніверсітэтах Польшчы. Прычынай яе пераўтварэння ў праграму стажыровак стала „пацяпленне” ў стасунках паміж афіцыйным Мінскам і суседнімі краінамі, што ўваходзяць у Еўрасаюз. Наколькі доўгім будзе такое „пацяпленне” сказаць немагчыма, але можна адназначна казаць, што канец у яго будзе. Праўда, наўрад ці гэта будзе азначаць вяртанне „Праграмы Каліноўскага”, і хутчэй за ўсё новым рэпрэсаваным трэба будзе шукаць магчымасці для далейшай адукацыі выключна сваімі намаганнямі і ўласным досведам.

Ну а камітэт „Салідарнасць”, які дапамагаў знайсці новае месца вучобы для беларускіх студэнтаў за мяжой, цяпер адным са сваіх накірункаў дзейнасці абраў пошук працы ў Беларусі для тых, хто атрымаў замежную адукацыю.

„Наша мэта — стварэнне сеткі тых людзей, якія думаюць пра Беларусь, таму праект і называецца «Тваё заўтра для Беларусі». Дзе б ты ні быў, ты застаешся сынам сваёй зямлі”, — цытуе старшыню камітэта Іну Кулей „Нямецкая хваля” 5 ліпеня. З гэтай нагоды сёлета ў інтэрнэце з'явіўся сайт з назвай „Тваё заўтра”, які месціцца па адрасе **www.yoto.by**. „Агенцтва «Тваё заўтра» і партал www.yoto.by працуюць для маладых спецыялістаў з Беларусі, якія атрымалі вышэйшую адукацыю за мяжой. Мы адышлі ад канцэпцыі «уцечка-вяртанне розумаў» і вітаем сучасную канцэпцыю «цыркуляцыя розумаў». Мы прызнаем факт міжнароднай мабільнасці беларусаў, як частку акадэмічнай мабільнасці, і лічым беларускіх студэнтаў, аспірантаў і стажораў, якія вучацца ў замежных універсітэтах шматтысячным патэнцыйным навукова-тэхнічным, культурным і грамадскім рэзервам для нашай краіны. Наша мэта — наладжванне навуковых, экспертных, культурных і арганізацыйных сувязей паміж беларускай акадэмічнай дыяспарай і Беларуссю. Мы дапаможам Вам павысіць свой навуковы і прафесійны ўзровень і знайсці перспектыўнае месца працы на Радзіме”, — распавядаецца пра праект у рубрыцы „Пра нас”.

Агульны ж выгляд сайта даволі прываблівы, зроблены нешаблонна і аздоблены інфарматыўнымі здымкамі. Галоўная старонка змяшчае не толькі выйсці на рубрыкі, але і падае анонсы разнастайных артыкулаў і сервісаў, што маюцца на сайце.

Паколькі гэты партал па працаўладкаванні з'явіўся ў Сеціве не надта даўно, то пакуль як вакансій, так і прапаноў працы там нямнога. І падаецца, што стваральнікам „Твайго заўтра” прыйдзецца многа папрацаваць, каб сайт заняў імідж сапраўды карыснага партала, які можа дапамагчы знайсці працу тым, хто шукае яе ў Беларусі, маючы пры гэтым замежны дыплом.

Ёсць на сайце даволі цікавая рубрыка „Працадаўцам”. У ёй стваральнікі сайта прапануюць тым, хто шукае працаўніка, не толькі пакідаць інфармацыю аб вакансіях, але і распавядаць пра сваю гісторыю поспеху.

Паводле беларускага апазіцыйнага палітыка Паўла Северынца, улады ў Беларусі не разумеюць каштоўнасці беларусаў з еўрапейскімі дыпломамі, „але незалежная грамадзянская супольнасць гэта разумее і прыкладае намаганні, каб яны вярталіся ў Беларусь”.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Беларускі лекар, публіцыст, дабрачынец



## 150 гадоў з дня нараджэння
# Напалеона Чарноцкага

Беларускі публіцыст і перакладчык Напалеон Чарноцкі нарадзіўся 13 ліпеня 1866 г. у маёнтку Нач-Брындзоўская (цяпер вёска Нача Ляхавіцкага раёна). Паходзіў з вядомага шляхецкага роду, выхоўваўся ў вольналюбівых і патрыятычных традыцыях. У 1887 г. скончыў Слуцкую гімназію, быў сябрам самаадукацыйнага гуртка. У гэты ж перыяд азнаёміўся з рускай рэвалюцыйнай літаратурай, польскім сацыялістычным друкам. Некалькі гадоў працаваў бібліятэкарам школьнай бібліятэкі, у якой таксама ўтварыўся нефармальны гурток. У 1889-1895 гг. Чарноцкі вучыўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта, уваходзіў у тайныя гурткі сацыялістычнай скіраванасці, далучыўся да студэнцкага рэвалюцыйнага руху. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1890 г. часова выключаны з універсітэта і высланы пад нагляд паліцыі на радзіму ў маёнтак бацькі.

З 1895 г. працаваў лекарам у мястэчках Ліпнішкі і Мір. Усталяваў сувязь з тайнай друкарняй сацыялістаў. У час руска-японскай вайны 1904-1905 гг. як лекар мабілізаваны на Маньчжурскі фронт. У 1908 г. эміграваў у далёкую Канаду. Там займаўся фермерствам, але не вельмі прыбыткова. Вярнуўся з-за акіяна якраз перад пачаткам Першай сусветнай вайны. Зноў быў узяты на вайсковую лекарскую службу. У 1918 г. пераехаў у Варшаву. З 1919 г. працаваў кватэрным інспектарам, пасля жыў у Вільні, кіраваў Касай хворых. Пасля эвакуацыі польскага ўрада перад прыходам бальшавікоў працаваў некалькі месяцаў у Шахцёрскай Дуброве. У 1922 г. уступіў у Польскую сацыялістычную партыю. З 1928 г. працаваў лекарам Касы хворых у Крамяніцы на Валыні, а з 1931 г. — у Лідзе, дзе быў на пасадзе галоўнага лекара сацыяльнай страхавой касы. Сучаснікі ўспаміналі яго як чалавека шчырага сэрца і дабрачынца. У 1936 г. пакінуў лекарскую практыку і заняўся вырошчваннем зёлак у вёсцы Вялікая Лябёдка на Лідчыне. Гэтай справай Напалеон Чарноцкі пачынаў займацца яшчэ ў час пабыўкі ў Канадзе. Ён з вялікай зацікаўленасцю вырошчваў лекавыя травы і расліны, хадзіў на балоты, тарфянікі і лугі. Дапамагаў людзям, пастаўляў зёлкі ў розныя ўстановы і прадпрыемствы. Жыў адзін як халасцяк.

Першая літаратурная праца Напалеона Чарноцкага — удзел у 1885 г. у перакладзе гуртвоўцамі Слуцкай гімназіі на беларускую мову папулярнай тады брашуры „Дзядзька Антон” і выданні яе гектаграфічным спосабам у Слуцку (выданне гэтае пакуль нідзе не выяўлена) і ў 1892 г. у Тыльзіце (цяпер горад Савецк у Калінінградскай вобласці). Чарноцкі — аўтар вядомых у свой час публіцыстычных прац „Як будзе з зямлёю?” і „Да пытання пра беларускую народную школу”, у якой выступаў у абароне беларускай мовы, з сімпатыяй пісаў пра творчасць Якуба Коласа, выявіў добрае веданне беларускага фальклору. Напісаў таксама нарыс „Аб адбудове гістарычнай Літвы” (не выяўлены). Актыўна працаваў як перакладчык. Пераклаў на беларускую мову п'есы „Сватанне” Антона Чэхава і „Пашыліся ў дурні” Марка Крапіўніцкага. Аўтар успамінаў пра рэвалюцыйны рух. Захавалася некалькі лістоў Чарноцкага да пісьменніка Уладзіміра Караленкі, у якіх ён закранае пытанне перакладу яго апавяданняў. Вядомы таксама яго ліст у „Нашу ніву”, дасланы з Канады ў 1912 г.

Памёр Напалеон Чарноцкі 14 лютага 1937 г. у маёнтку Вялікая Лябёдка (цяпер Шчучынскі раён). Пахаваны ў мясцовасці Скрыбаўцы.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




## Мае прыгоды з аўтобусамі

З тае прычыны, што мне трэба быць на працы ў шэсць раніцы, а маёй жонцы ў сем, то жонка на работу едзе на машыне, а я карыстаюся гарадскім транспартам. Ужо пасля 5-й гадзіны раніцы ў аўтобусе поўна народу. Пасля 16-й вяртаецца яшчэ больш людзей. Дзякуючы частым падарожжам гарадскім транспартам па Беластоку, я перажыў шмат забаўных сітуацый.

Раз у студзені а 21 гадзіне вяртаўся я ад сяброў са студэнцкага інтэрната па вуліцы Жаромскага аўтобусам лініі № 11. Затрымаўся ён пры беластоцкім чыгуначным вакзале і стаяў хвілін пяць з адкрытымі дзвярыма, аж паявілася левая, потым правая рука. Нешта ўпаўзло ў аўтобус. Аказалася, што гэта быў прыгожа апрануты чалавек — новы касцюм, гальштук, белая кашуля і святочнае паліто. Разумеў бы я, калі б гэта быў бомж, але ж гэта быў панок, які пэўне працуе ў беластоцкай бюракратыі. Ну, думаю, проста загуляў. Можа ён не ўсведамляў, у які нумар аўтобуса ўлез, ды куды едзе той аўтобус, але найважнейшае, што кудысьці ехаў.

Дарэчы, алькагольныя прыгоды ў аўтобусах здараюцца даволі часта. Раз я ехаў ПКСам з Беластока на вёску, а там, сеўшыя ззаду, хлопцы вынялі пляшку ды сталі выпіваць. Шафёр замест выгнаць кампанію з аўтобуса, запрапанаваў ці не даць ім кіслых агуручкаў. Таксама раз у летнюю жару ў аўтобусе гарадской камунікацыі кампанія выпівала гарэлку. Я не ведаю, што гэта за прыемнасць выпіваць у летнюю спёку цёплую гарэлку. Проста, агіда і сорам перад іншымі пасажырамі. А раз зімовай раніцай, пры 10-градусным марозе, бачыў босага бамжа, які бег голымі нагамі па снезе. Відаць, нейкі сябрук, з якім ён выпіваў, сцібрыў яму боты, калі той спаў пасля п'янкі. Найбольш бамжовым нумарам беластоцкай гарадской камунікацыі безумоўна з'яўляецца аўтобус № 17. „Сямнаццаткай” штодзень раніцаю вяртаюцца кліенты выцвярэзніка, што знаходзіцца па вуліцы Баранавіцкай у Беластоку. Раніцай у „сямнаццатцы” дае смуродам ад недамытых бамжовых цел. Тым, якія гавораць, што гарадскія людзі лепш дбаюць аб гігіену, чымсьці сяляне, прапаную паездзіць аўтобусам № 17.

Часам бываюць і прыемныя хвіліны, калі сустракаюцца сімпатычныя людзі, якія самі пачынаюць гутарку. Найбольш адважныя — пажылыя людзі з вёсак. Асабліва люблю размаўляць са старэйшымі вясковымі людзьмі, якія ў свята вяртаюцца з Беластока ў родныя вёскі. Каб хутчэй праляцела падарожжа, расказваюць пра даўняе жыццё ды пра свае клопаты ды здзіўляюцца, што я, малады, умею гаварыць на падляшскай гаворцы. Іх гарадскія ўнукі ўжо саромеюцца свойскай мовы і цокаюць па-польску. А я ж таксама як і яны — з вёскі... Старэйшыя людзі цешацца, што я хачу іх слухаць.

Часам, едучы ў вёску, сустракаю ў аўтобусе майго сябра фалькларыста Лукаша, з якім вельмі люблю паразмаўляць пра яго фальклорныя экспедыцыі па падляшскіх вёсках. Я вельмі паважаю яго хобі і тое, што з Беластока пераехаў у Кляшчэлі, каб быць бліжэй нашых людзей.

Наогул мала маладых людзей карыстаецца цяпер аўтобусным транспартам, а гэта сапраўды цікавы сродак камунікацыі, які адыходзіць ужо ў гісторыю. Шкада...

**Юрка БУЙНЮК**



## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. пры жыцці разам з целам = 2 __ 11 __ 24 __ 1 __;
2. галоўная якуцкая рака = 20 __ 21 __ 7 __ 8 __;
3. абласны расійскі горад на рацэ Суры = 17 __ 16 __ 15 __ 5 __ 6 __;
4. найбольшы грэчаскі порт = 22 __ 23 __ 3 __ 4 __ 9 __;
5. кітайскае збожжа ў ... прысаку = 18 __ 19 __ 12 __;
6. тэрыторыя за лініяй фронту = 13 __ 14 __ 10 __.

(ш)

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 26 нумара**

Кантынент, трава, чай, Ула, рэшата, натоўп, батэрфляй, зарок, Дзяржынск.

Рашэнне: **На чужы каравай рота не разяўляй**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 17.07 — 23.07

**(22.03. — 20.04.)** Да 19.07. наладзіш найбольш цікавыя знаёмствы. Важнае не тое, ці камфортна, дзе і як, але з кім. Сонца змабілізуе цябе да актыўнасці. Пасля 20.07. будзеш збіраць пахвалы нават ад тых, пра каго ты думаў, што яны непрыхільныя ў адносінах да цябе. Калі трэба будзе перасяліцца ў сувязі з працай, рызыкні.

**(21.04. — 21.05.)** 17-24.07. будзеш мець нос да інтарэсаў і карысных прапаноў. Трэба будзе востра ўзяцца за працу, але варта, будзеш ацэнены належным чынам і ўзнагароджаны. Будзеш ззяць і спакушаць, дык партнёру прыбудзе сівых валасоў. Бык у маладой пары няхай не імкнецца да хуткай кансумацыі пачуцця. І ў спажыванні ежы задумайся, ці добра штосьці табе служыць.

**(22.05. — 22.06.)** Магчымы нейкія прафесійныя турботы. Знойдзеш выхад з нязручных кампанейскіх сітуацый. Лягчэй будзе табе наладжваць знаёмствы. Паправяцца адносіны ў пары, мінуць узаемныя прэтэнзіі і абвінавачванні. 16-19.07. магчымы немалы выйгрыш! 18-23.07. можаш пачаць сумнявацца ў тым, у што да гэтага часу ты непахісна верыў.

**(23.06. — 23.07.)** Неба над табою развее сумныя думкі і зноў пачнеш усміхацца. Прыемнасці, таксама цялесныя. Не ўстаіць перад табою нават малодшы аб'ект (ці гэта будзе мець будучыню, іншая справа). Не адставай з тэхнікай — не такі д'ябал страшны! У фірме рыхтуецца многа размоў, сустрэч і кантактаў з уплывовымі кліентамі, калі шукаеш лепшай пасады, кажы адразу. Пі многа вады.

**(24.07. — 23.08.)** 16-18.07. магчымыя нечаканыя перашкоды ў рэалізацыі тваіх планаў. 19-23.07. нічога неабдумана не ацаняй, можаш моцна памыліцца. Сямейныя спрэчкі вырашацца 17-24.07.; акажацца, што рацыя была на тваім баку. Вельмі дбай аб свой страўнік, здалёк трымайся ад падазроных кулінарных устаноў і правярай даты прыгоднасці прадуктаў.

**(24.08. — 23.09.)** 16-18.07. будзеш мець добрую руку да падарожжаў і файных прыгод. Шыкуюцца ўдачы — карыстайся, бо пасля будзе менш нагод. Сінглы павінны зважаць на плёткі, не расказваць пра свае любоўныя здабыткі. 18-23.07. вельмі пільнуй дом перад патопам! Калі будзе цябе турбаваць здароўе, гэта ад стомы. Добра адпачні!

**(24.09. — 23.10.)** 16-18.07. будзеш думаць творча і ўразіш атачэнне. Ад 20.07. рушыш з месца ў кар'ер, будуць прыемнасці і прыбыткі. Памятай, няма такой справы, з-за якой варта страціць сябра. Лепш не насі пры сабе большай колькасці грошай. 19-23.07. — кепскі момант на хірургічныя працэдуры — раны будуць доўга гаіцца. Не пачынай цяпер таксама дыеты, не галадай; на талерку накладвай больш салатаў.

**(24.10. — 22.11.)** Не злуйся! Калі закахаешся, можаш трапіць на вельмі складаную асобу; твая любоўная інтуіцыя можа цябе падвесці асабліва з 22.07 (да 28.07). А ў пары партнёр можа паказаць кіпцікі пасля 20.07. На працы патрэбныя будуць хуткія рашэнні, папраўце камунікацыю ў фірме. З 21.07. (да 25.07.) не дай сябе падвесці пад дурнога хату, сачы!

**(23.11. — 22.12.)** Не дамаўляйся насуперак сабе, пачакай аж сэрца затрапечацца (магчыма гэта 16-18.07.). Не выбірайся на мерапрыемствы, калі адчуеш, што там людзі «не з тваёй казкі». Будзеш амбітны і ахвотны да дзеяння, але ўсё рабі **fair**, таксама ў адносінах да калег. Пад канец месяца шторaз лепш у фінансах.

**(23.12. — 20.01.)** Задбай аб здароўе, схадзі да лекара на абследаванні. Будзеш мець прыхільнасць кіраўніцтва і праваахоўнікаў. І сам будзеш асабліва сардэчны, ветлівы і ахвотны да дапамогі. Але ў кампаніі, асабліва каб штосьці «падчапіць» — будзе горш. Можаш мець вялікія прыбыткі, не пераеж іх; можаш купіць зямлю, дом. Але з 21 (да 25.07.) хтосьці схоча вымусіць на табе пазыку ці дарагі падарунак. Рэгулярна практыкуйся.

**(21.01. — 19.02.)** 16-19.07. лепш не бярыся за рамонт. 16-19.07. можаш давядацца аб вольным месцы на працы (распытвай перш за ўсё сярод знаёмых). Затое маеш зялёнае святло ў пачуццях. Наладзіш новыя цікавыя знаёмствы, якія працягнуцца далей. Будзеш прыцягваць людзей як магніт! Будзеш проста віртуозам флірту! Можаш хутка трапіць у ложак, а пасля і пад вянец. Вельмі пільнуй сваіх вачэй. І пільнуйся на дарозе, у вадзе і на вышыні!

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш энергічны, нічога не будзе табе балець. Пабегай зранку. Можаш кінуць курэнне. Змагайся за свае на працы, шэф цябе пахваліць і ўзнагародзіць. Але тваім фінансам пагражае крах — не выдавай больш чым зарабляеш! Не слухай прадаўцоў, не пазычай нікому. 16-19.07. не выклікай нейкага скандалу! 19-23.07. чыесь паводзіны або рашэнне вельмі цябе расчаруюць.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# На Яна ў Сідэрцы

**Штораз менш мясцовасцей у нашым наваколлі, куды даходзіць публічны транспарт. Вось задумалася мне з'ездзіць у Сідэрку на Яна, 7 ліпеня. Разважаў я, ці не падацца ў тую мясцовасць цераз Залессе, куды яшчэ нядаўна з Саколкі адпраўляўся зручнай раніцай аўтобус. На жаль, Залессе, некалі важная мясцовасць, якая ў XVII стагоддзі нават мела шанц стаць горадам, не паказваецца ўжо ў спісе аўтобусных прыпынкаў...**

Сідэрка ў чатырох кіламетрах ад Сідры. А побач Сідры ў сам разгар „сацыялістычнага будаўніцтва” была пракладзена чыгунка, па якой яшчэ курсіруе публічны пасажырскі транспарт. Мабыць паралельна з запускам чыгуначнай лініі да станцыі каля Сідры з цэнтра мясцовасці быў пракладзены тратуар. Я ўжо калісь крыху пра той тратуар цёпла згадваў і ён надалей выклікае ў мяне захапленне. Гэта жывы рэлікт таго часу, калі яшчэ не было гарачай жыццёвай спешкі, гэтай „гонкі пацукоў” так характэрнай цяперашняй эпосе. Тратуар пракладзены па набярэжнай мясцовай няспешнай рачулкі, здалёк ад асфальтовак, у такім месцы, дзе не адчуваецца ніякага цывілізацыйнага ціску. Тут прырода памяркоўна заяўляе пра сваю прысутнасць, тут быццам кавалак раю, дзе не адчуваецца біблейскага наканавання ў поце здабываць хлеб свой... Калісь той тратуар можа быў пракладзены роўненька, быццам пад лінейку, а сёння час крышку пакрывіў яго прастору. Тратуарныя пліткі, быццам капрызныя людзі, сталі спаглядаць у розныя бакі, бардзюры апранулі мохавыя футры. Ды народу там стольківі, быццам на бязлюдным востраве, затое прыроды — быццам у трапічнай паласе... На вялікі жаль, гэтага раю не больш паўкіламетра, пасля чаго звычайная штодзённасць. У цэнтры мястэчка спажывецкая крама, побач якой мясцовы мужчынскі актыў запраўляецца на доўгі летні дзень лагодным духовым палівам...

За Сідрай даволі неардынарная гісторыя, пасля якой у цэнтры мястэчка асталіся ад яе, між іншым, фрагменты кальвінскага збору. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з 1889 года: „Sidra, mko i dobra nad rzką Sidrą, lewym dopł. Biebrzy, pow. sokólski, o 16 w. od Sokółki, 14 w. od Kuźnicy a 30 w. od Grodna. Zabudowana na wzgórzu panującem nad bagnistą okolicą ma 110 dm., przeważnie drewnianych, 920 mk. (w 1878 r.), w tem 604 żydów, zarząd miejski, zarząd gminny, cerkiew, kośc. kat., kośc. ewang., dom modlitwy żydowski, targi co niedzielę, st. poczt. Ludność trudni się rolnictwem lub drobnym przemysłem. Par. prawosł., dekanatu (błahoczynia) sokólskiego, 1531 wiernych. Par. katol., również dekanatu sokólskiego, 2224 wiernych. Niewiadomo kiedy powstała ta osada”. Аўтар, здаецца, палічыў Сідру і суседнюю Сідэрку адной мясцовасцю, таму ў яе апісанні апынулася царква, што тады была ў Сідэрцы. Бо ж у тым жа Слоўніку маецца наступнае апісанне канфесійнага краявіду Сакольшчыны: „Pod względem kościelnym sokólski powiat tworzy dekanat (błagoczynie) prawosławny sokólski, obejmujący 9 parafii: Sokółka, Ostrów, Jurowlany, Siderka, Wasilków, Samogruda, Krasnystok, Nowydwór i Kuźnica, 14354 wiernych. Oprócz 9 cerkwi paraf. znajdują się w dekanacie 1 cerkiew filialna, 4 cmentarne i 2 kaplice. Również i wszystkie parafie katol. w powiecie należą do dekanatu katol. sokólskiego dyecezyi wileńskiej. Składa on się z 12 parafii: Sokółka, Kuźnica, Kundzin, Janów, Suchowola, Sokolany, Dąbrowa, Nowydwór, Odelsk, Korycin, Sidra, Zalesie (dawniej jeszcze Różanystok, Szudziałów i Wasilków) i ma 61478 wiernych”. Храм у Сідэрцы вандраваў паводле адміністрацыйных загадаў; партал Беластоцкай архідыяцэзіі: „Dzieje parafii sięgają jednak pierwszej ćwierci XIX stulecia, kiedy



Будынак млына ў Сідэрцы

to w roku 1825 Ignacy Zawistowski, właściciel majątku Siderka, mając na względzie potrzeby duchowe swoich poddanych, katolików obrządku wschodniego — unitów wybudował obecną murowaną świątynię. Po kasacie Unii w 1839 r. wiernym udało się z trudem przez kilka lat obronić swoją świątynię, aż do roku 1850, gdy ostatecznie decyzją władz carskich zamieniono ją na cerkiew i oddano prawosławnym. Wkrótce po odzyskaniu przez Polskę niepodległości, w roku 1920 kościół został przekazany katolikom — łacinnikom i służył wiernym jako kościół rektoralny”. Слова *рэктаральны*, гэта такая эўфемічная назва дадатковага храма ў парафіі, які яшчэ не мае дакладных іерархічных каардынат. У 1946 годзе ў Сідэрцы была ўстаноўлена самастойная каталіцкая парафія і тады храм стаў парафіяльным касцёлам.

Аднак канфесійная гісторыя Сідэркі багацейшая за тую, што падае каталіцкі партал; Вікіпедыя: „Prawosławna parafia przy dworze w Sidrze powstała ok. 1540 na potrzeby sprowadzanych na ten teren osadników rusińskich. Po 1596 placówka ta przyjęła unię. Pierwsze informacje o odrębnej cerkwi w samej Siderce pochodzą z 1706, gdy wymieniona jest unicka drewniana cerkiew św. Michała Archanioła. Wymienia ją również spis świątyń katolickich z 1744. Do 1797 parafia w Siderce pozostawała w strukturach unickiej diecezji włodzimiersko-brzeskiej. Następnie, do 1807, należała do dekanatu nowodworskiego unickiej diecezji supraskiej, a po jej likwidacji znalazła się w unickiej diecezji wileńskiej, w dekanacie drohiczyńskim. Na początku XIX w. nosiła wezwanie Przemienienia Pańskiego”. I далей: „W 1838 do parafii siderkowskiej należało 1075 osób, niemal wyłącznie chłopów... W 1846 do świątyni uczęszczało 1031 osób, natomiast w 1875 było ich 1520... Na początku XX wieku do cerkwi uczęszczało 2117 parafian, natomiast w 1913 proboszcz parafii szacował liczbę wiernych na 1823 osoby. W opisie świątyni z tego samego okresu wskazano, że na jej wyposażeniu znajdowała się ikona Matki Bożej, uważana za cudotwórczą. Jej wiek szacowano na 400 lat”.

У кнізе „Zapomniane dziedzictwo” а. Рыгор і м. Антаніна Сосны так пісалі пра прыход у Сідэрцы: „Według *Klirovych Vedomosti* z 1913 r. parafię stanowiły miejscowości: Siderka — 322 osób, Szostaki — 130, Sidra — 11, Kudrawka — 53, Synkowce — 209, Podsutki — 72, Staworowo — 8, Jurasze — 65, Sniczany — 74, Makowlany — 348, Siekierka — 102, Bierwicha — 173, Słomianka — 158, Mościcha — 60, Romanówka — 8, urocz. Kalwinszczyzna — 6. Razem 1823 osób. Na terenie parafii zamieszkiwało też 667 wyznawców religii mojżeszowej i 2842 katolików”. Падлік крыху недакладны, аднак гэта толькі статыстыка, якая неўзабаве — у 1915 годзе, карэнным чынам мяняецца ў выніку бежанства. „Zapomniane dziedzictwo”: „Po powrocie prawosławni zostali pozbawieni cerkwi, w 1920 r. zabrano ją na kościół, a parafianie zostali przyłączeni do parafii Jaczno. Według *Klirovych Vedomosti* parafii Jaczno liczba wyznawców we wsi Siderka przedstawiała się następująco: rok 1921 — 189, 1937 — 278 osób, 1946 — 194, 1962 — 207 osób. W 1971 r. w Siderce na cmentarzu wybudowano kaplicę św. Jana Chrzciciela”.

Гэтыя могілкі каля кіламетра на ўсход ад касцёла, у паўночнай іх палове хаваюць каталіцкіх нябожчыкаў, у паўднёвай — праваслаўных. У дзень ушанавання нараджэння нябеснага заступніка капліцы тут храмавое свята. Духоўныя моляцца за спачылых, у капліцы правіцца малебен. Гэтак было і сёлета. Сказаць, што народу сабралася каля паўтысячы, было б крыху эйфарычна, аднак не занадта. Перад галоўнай брамай быў гандлёвы рад з таварам прапанаваным наймалодшаму пакаленню; *сіці* налічвала пятнаццаць ларкоў. А абочыну дарогі з Сідэркі ў калёніі Патрубоўшчыны, уздоўж якой распалажаны могілкі, шчыльна занялі легкавушкі, мо з дзвесце штук, у рашучай бальшыні з мясцовай прапіскай; шмат было і беластоцкіх. Сорак пяць гадоў таму, калі храм толькі што вырас, пра масавае ўладальніцтва аўтамашын не было хіба нават мараў; мабыць тады абочыну згаданай дарогі займалі фурманкі, а побач іх коні камбінавалі, як ушчыпнуць крыху араматных аўсяных каласоў з прылягаючага да дарогі поля...

Капліца на могілках у Сідэрцы стаіць ужо сорак пяць гадоў і за гэты час наспела патрэба рамонту. І такі рамонт зараз праводзіцца. Жыхар суседняй Патрубоўшчыны выканаў новы іканастас. Яшчэ крыху дэталяў не хапае для высвячэння адноўленага храма. А ў дзень свята невялікая капліца не магла змясціць усіх прысутных, якім на той момант паспрыяла надвор'е, хмары расплыліся і паказалася сонейка...

Дэмаграфія Сідэркі падае ў выніку розных міграцый. Мяняецца таксама ландшафт. Калісь-калісь на паўднёвай ускраіне вёскі быў маёнтак з дворскім будынкам і комплексам гаспадарчых збудаванняў. Зараз ад таго ўсяго комплексу асталася відочнай каменная сцяна ад колішняй, бадай, аборы. На месцы ўзведзенай пры „камуне” крамы асталася зарастаючая кустамі падлога. На рэчцы Сідры будынак колішняга, яшчэ панскага млына, абноўлены ўласнікам у чаканні нейкай новай будучыні.

За касцёлам, у межах цвінтара, муравaная стэла некалькіметровай вышыні, пастаўленая ў 1932 годзе ў памяць памерлай тады 34-гадовай дзедзічкі Ванды Матушынскай. На мармуровай табліцы кранальная эпітафія: „Kto na wieczne wszedł rozłogi / Kogo światłość zórz przenika / Ten nie będzie pytał drogi / U ziemskiego przewodnika. Zaszło jej słońce gdy jeszcze dzień był”. А ўжо за мостам, па дарозе ў Шостакі, дзве стэлы чалавечага росту з яшчэ чытэльнымі эпітафіямі: „З. У. рабовъ Божіихъ Ивана и Павла Елисаветы и Агафіи Груша ноября 1927 г. Боже милостивъ буди намъ грешнымъ” ды „З. У. Владимира Анастасіи Надежды Елисаветы Чикеръ Июня 15 дня 1927 г. Помяни насъ Господи егда пріидеши во Твоемъ”.

Павандраваў я ў напрамку Масціхі, а больш агульна кажучы, у напрамку „доўгай вёскі”, што ў эпоху каралевы Боны расцягнулася ад Саколкі да Асмалоўшчыны. Жвіроўка ў лесе некалькі разоў разгаліноўваецца, але ўдалося мне не збіцца з яе; выходзіць яна на мяжы Масціхі і Лазова, акурат на крыж з надпісам на чыгунным авале: „Bron nas od nagłei niespodziewanej smierci i wszelkiego upadku calej wsi poświencony 1880 r.”.

Масціха — вёска непрацяглая, таму ў ёй яшчэ некалькі гадоў таму не было аўтобуснага прыпынку. Зараз такі ёсць — у выглядзе жалезнага прыдарожнага слупка з прымацаванай прыпынкавай шыльдай. Паколькі аставалася мне амаль гадзіна часу да прыезду аўтобуса, рашыў я прайсціся ў Саломянку; да гэтага рашэння падштурхнула мяне і цёмная хмара, якая быццам няспешны каршун прыглядалася, на якую здабычу апусціць свае дажджавыя кіпцюры. Неўзабаве густым душам стала яна паліваць зямельку. Саломянка прывітала мяне сімпатычнай прыпынкавай паветкай. Аб'ект, узведзены бадай у эпоху станаўлення Другой Польшчы, прайшоў ужо стадыі разбівання сцен і даху гарэзлівым маладым пакаленнем. Цяпер апекуны прыпынку абнавілі дах і ўсе тры сцяны паветкі прафіляванай бляхай знятай з нейкага іншага будынка. І лавачка там цалкам цэлая, і кусцікі ясеня, і расклад аўтобусаў, і розная іншая „інфармацыя”... Цалкам сімпатычная пачакальня ў любое надвор'е.

Аўтобус з Дубровы ў Саколку прывёз свайго аднаго-адзінага пасажыра, менавіта ў Саломянку. Чарговым адзіным пасажырам стаў я, але толькі да Макаўлян; там села яшчэ адна жанчына. І з такім пасажырствам аўтобус прыехаў у Саколку.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960